© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 7 (572) ГОД XII 12 ЛЮТАГА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


У НУМАРЫ



## БГКТ

### НЕКАТОРЫЯ ДАНЫЯ ЗА 1966 ГОД

У мінулым годзе эстрада ГП «Лявоніха» дала 182 канцэрты. І так, найбольш, бо аж 25 разоў, выступала яна ў Сакольскім павеце. У Гайнаўскім павеце адбылося ў 1966 годзе 29 канцэртаў, у Бельскім — 27, у Беластоцкім — 23, у Сямяціцкім — 20 і горадзе Беластоку — 6.

Вялікай папулярнасцю «Лявоніха» карыстаецца ў польскіх асяроддзях. Там на яе канцэртах заўсёды большая колькасць людзей, чым у беларускіх асяроддзях. У 1966 годзе эстрада ГП у польскіх асяроддзях дала 42 канцэрты. Выступала яна па 6 разоў у Элцкім, Ламжынскім і Сэйненскім паветах, па 5 разоў у Высокамазавецкім і Галдапскім паветах, 7 разоў у Граеўскім і 9 разоў у Манецкім паветах.

Зараз «Лявоніха» пад кіраўніцтвам Эдуарда Гойліка рыхтуе новую праграму.

* ✲ *

Некалькі слоў аб распаўсюджванні паасобнымі аддзеламі кніжных выданняў ГП. У гэтай дзялянцы Гайнаўскі аддзел займае першае месца. Прадаў ён 2890 кніжак на суму 21 800 зл. Другое месца займае Бельскі аддзел, дзе продана 1676 кніжак на суму 12 300 зл. Найменш прадалі кніжных выданняў ГП гарадскія аддзелы — Беластоцкі і Варшаўскі.

* ✲ *

Затое ўспомненыя аддзелы, гэта значыць Беластоцкі і Варшаўскі, займаюць першыя месцы ў аплочванні членскіх складчын. Трэцяе месца ў аплочванні складчын займае Гайнаўскі аддзел.

### ПАСЯДЖЭННЕ ГАЙНАЎСКАГА АДДЗЕЛА

27 студзеня адбылося пасяджэнне праўлення аддзела з наступным парадкам: 1) аналіз працы за 1966 год, 2) зацверджанне плану працы на 1967 год.

Справаздачу і план працы зачытаў старшыня праўлення аддзела Аляксандр Іванюк. У справаздачы, як і ў дыскусіі, сцвярджалася, што БГКТ на Гайнаўшчыне ў 1966 годзе значна павысіла ўзровень сваёй дзейнасці. Пашырылася супрацоўніцтва з многімі ўстановамі, а таксама з мясцовымі ўладамі. У параўнанні да 1965 года ў 1966 годзе ў два разы павялічылася сума аплочаных членскіх складчын. У мінулым годзе значна павялічылася колькасць падпісчыкаў «Нівы». Было іх у снежні 2387. Гайнаўскі гурток БГКТ утварыў эстраду, якая дала ўжо першыя выступленні. Дзякуючы дзейнасці Гайнаўскага гуртка ажывіліся чацвяргі (былі яны запачаткованы раней), якія маюць культурна-асветны характар.

Аддзел і далей будзе ўдасканальваць існуючыя формы працы. Забавязаў ён свайго штатнага працаўніка Віктара Буру, каб ён кожны месяц абслужыў 10 гурткоў БГКТ. Праўленне аддзела актыўна ўключылася у павятовы план адзначэння 25 гадавіны з дня заснавання Польскай рабочай партыі.

### СУСТРЭЧА

26 студзеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў спатканне з былымі членамі Польскай рабочай партыі. З уступным словам выступіў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк, які між іншым заахвочваў пісаць успаміны аб дзейнасці ППР у паасобных аколіцах. У сардэчнай размове пры чорнай каве ППР-аўцы расказвалі аб цяжкіх умовах станаўлення народнай улады на Беласточчыне. У спатканні ўзяло ўдзел 20 асоб. (мх)

*Беларускае жаночае адзенне з Гайнаўшчыны на экспазіцыі ў Торунскім этнаграфічным музеі. На староцы трэцяй чытайце (і глядзіце) фотарэпартаж «Народная культура Беласточчыны ў фондах Этнаграфічнага музея ў Toруні».*

## МБМ

Вёска Сакі, што на Гайнаўшчыне, схавалася ад людскіх вачэй за ўзгоркамі ў жывапіснай даліне ракі Белай. Але ад свету і яго спраў не адарвалася. Хопіць толькі паслухаць безупыннай грахатні трактараў. Іх тут аж 11. Тэхніка, якая знаходзіцца ў Саках, каштуе каля двух мільёнаў злотых.

Адкуль узялося толькі дабра ў вёсцы, у якой жыве ледзь 64 гаспадары, а на кожнага з іх прыпадае ў сярэднім па 6 гектараў зямельных угоддзяў, палавіна якіх — гэта лугі і сенажаці?

Ужо ў 1937 годзе сакоўскія гаспадары заaралі барозны палосак і перайшлі на хутары. Пасля вайны задбалі яны найперш, каб у іх вёсцы была новая, мураваная школа. У 1955 годзе выдавалася яна прасторнай і свабодна змяшчала вучняў з Сакоў, Сухавольцаў, Залешан і Тапорак. Цяпер у школе стала цесна, і бацькі рашылі пабудаваць другі будынак. Згодна ападаткаваліся і паабяцалі папрацаваць па некалькі дзён кожны. Сцены новага будынка выведзены ўжо за вокны. 9 год пазней паявіўся ў Саках другі будынак грамадскага карыстання — пункт прыёму малака. Ізноў каля 70% яго коштаў — гэта грошы і праца жыхароў вёскі. У Саках няма гаспадара, які трымаў бы менш за дзве красулі, а ў Браніслава Каўнацкага і ў Пятра Нявінскага налічваецца іх аж па 7. Летам вёска проста купаецца ў малацэ. І ў 1965, і ў мінулых гадах у Саках зноў ішла інтэнсіўная будова. Яна яшчэ не закончана. Каб расказаць пра яе, трэба ведаць гісторыю сакоўскага сельскагаспадарчага гуртка.

Заснаваўся ён у 1962 годзе. Налічваў тады 16 членаў. На дзяржаўны фонд развіцця сельскай гаспадаркі гуртокоўцы спярша купілі малатарню, а ў наступным годзе ўжо два трактары, і так кожны год, новы набытак. Урэшце не хапіла ім грошай. Праўленне гуртка супольна з мясцовай партыйнай арганізацыяй рашылі «пазычыць» у суседзяў.

Сухавольскія гаспадары, якія жывуць па-суседску, не патрапілі выкарыстаць свайго фонда развіцця сельскай гаспадаркі. Быў і ў іх сельскагаспадарчы гурток, але дзейнасці ніякай не праяўляў. Восенню 1964 года Сакі запрапанавалі суседзям: далучайцеся, калі ласка, да нас... разам са сваім грашовым фондам. Ідэю адобрылі ў павеце і пахвалілі ў ваяводстве. Некалькі месяцаў пазней — на вясну 1965 года — да сакоўскага гуртка далучыліся яшчэ гаспадары з вёскі Залешаны. У «пасагу» прынеслі залешанскі фонд развіцця сельскай гаспадаркі. Узнік своеасаблівы гуртковскі трохвугольнік, якога пазней улады ахрысцілі **міжгуртковаскай машынатрактарнай базай**, што коратка абазначаецца польскім сімвалам «МБМ» (Międzykółkowa Baza Maszynowa).

Яе паўнапраўнымі членамі з'яўляецца 76 гаспадароў з трох вёсак і амаль столькі ж жанчын аб'яднаных у гуртку вясковых гаспадынь.

— Ці сяляне з Сухавольцаў і Залешан не крыўдуюць на вас, што ўсе машыны ў Саках? — пытаю кіраўніка «МБМ» **Міхаіла Адамца**, які адначасова з'яўляецца сакратаром мясцовай партыйнай арганізацыі.

(Працяг на стар. 4)

### У МІЖНАРОДНЫ ГОД ТУРЫСТЫКІ

Калі пятнаццаць месяцаў таму назад мы арганізоўвалі на Беласточчыне вялікую культурна-турыстычную акцыю пад лозунгам «Сядайце, калі ласка, паедзем!», нават не спадзяваліся, што яна зробіць такую вялікую кар'еру.

За мінуўшыя пятнаццаць месяцаў ва ўсякага роду нашых мерапрыемстваў удзельнічала 120.000 чалавек. Такой масавасцю не можа пахваліцца ні адна культурна - турыстычная акцыя з праведзеных да гэтага часу на Беласточчыне.

Дык няхай жа першыя экскурсіі ў рамах акцыі «Сядайце, калі ласка, паедзем!» заахвоцяць іншых да выездаў і вандровак па Польшчы. Няхай разбуджаная ахвота да новых культурных і турыстычных уражанняў у гэтым годзе павялічыцца ў некалькі разоў. Бо 1967 год мае на гэта спецыяльныя магчымасці: Арганізацыя Аб'яднаных Нацый аб'явіла гэты год **«Міжнародным Годам Турыстыкі»**.

У сувязі з Міжнародным Годам Турыстыкі арганізатары акцый «Сядайце, калі ласка, паедзем!» аб'яўляюць **Вялікі турыстычны конкурс** для арганізатараў экскурсій.

### КОЖНЫ МОЖА БЫЦЬ УДЗЕЛЬНІКАМ

Конкурс вельмі просты. Мэтай яго з'яўляецца далейшае развіццё ў Міжнародным Годзе Турыстыкі папулярнай ужо на Беласточчыне акцыі «Сядайце, калі ласка, паедзем!»

## ВЯЛІКІ ТУРЫСТЫЧНЫ КОНКУРС

**«ГРАМАДЫ», «НАШАЙ ВСІ», «ГАЗЕТЫ БЕЛАСТОЦКАЙ», «НІВЫ» І РЭДАКЦЫІ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ** для арганізатараў экскурсій у рамах акцыі **«СЯДАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, ПАЕДЗЕМ!»**

У конкурсе могуць удзельнічаць усе — як установы, так і асобныя людзі. Такім чынам, кожны індывідуальны арганізатар экскурсіі або ўстанова (напр. малочная спулдзельня, ГС, сельгасгурток, ПГР, школа, прадпрыемства), звяртаючыся да «Грамады» з просьбай арганізаваць экскурсію ў рамах культурна-турыстычнай акцыі «Сядайце, калі ласка, паедзем!» можа быць удзельнікам конкурсу.

### ЗАДАННЕ ЎДЗЕЛЬНІКА

Конкурс працягваецца ад 10 лютага да 15 кастрычніка 1967 года. Кожны, хто хоча прыняць удзел у конкурсе, павінен арганізаваць пры дапамозе аддзелаў турыстычна-адпачынковай спулдзельні «Грамада» (ў Беластоку — вул. Варшаўская 39, тэл. 14-70, у Сямяцічах — Пляц Вызвалення 17, тэл. 94) экскурсію для групы не менш як з 30 чалавек. Такая экскурсія можа быць арганізавана па любому турысцкаму маршруту па Польшчы або заграніцу. Экскурсія можа быць турыстычна-краязнаўчай або спецыялістычнай (напр. на доследную сельскагаспадарчую станцыю, прыкладную ферму або гаспадарку і г.д.) або ў тэатр, ці на оперу.

Задача ўдзельніка конкурсу — сабраць адпаведную групу людзей, скласці ў «Грамадзе» фармальную заяву і дапільнаваць, каб экскурсія адбылася, г.зн., узгодніць з «Грамадай» месца і час выезду экскурсіі, яе праграму, а таксама запоўніць у «Грамадзе» спецыяльны купон. Пасля заканчэння кожнай экскурсіі, не пазней, чым за некалькі дзён, трэба занесці (або пераслаць) запоўнены купон конкурсу ў той аддзел «Грамады», пры дапамозе якога была арганізавана экскурсія. Калі група экскурсантаў налічвае 30 чалавек, удзельнік конкурсу атрымлівае адзін купон, калі 60 чалавек — два купоны і г.д. (Купоны можна атрымаць у аддзелах «Грамады»).

### УЗНАГАРОДЫ

Арганізатары конкурсу ўстанавілі наступныя ўзнагароды:

дванаццаць бясплатных заграніччных

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

### ЭКАНАМІЧНАЕ ПАСЛАННЕ КАНГРЭСУ

Прэзідэнт Джонсан накіраваў Кангрэсу сваё пасланне аб эканамічнай сітуацыі Злучаных Штатаў Амерыкі. Апрача станоўчай ацэнкі прэзідэнт Джонсан звяртае ўвагу Кангрэсу на «цяжкасці» і «праблемы», з якіх ЗША дагэтуль «не выпуталіся». Дадайма ад сябе, упуталіся. У пасланні звяртаецца ўвагу м. інш. на такія «праблемы» як:

■ Пад канец 1966 года больш 3 мільёнаў рабочых (у ЗША) аставалася без працы.

■ Сярод тых, якія мелі пастаянную працу, каля 2 мільёнаў зарабляла менш, чым належыцца пры мінімальным узроўні прыстойнага жыцця.

■ Каля 6,5 мільёна сем'яў знаходзіцца ў бядзе, таму што іх патэнцыянальныя кармільшчыкі не могуць працаваць з прычыны старасці або інвалідства, ці гэта сем'і, якія не маюць бацькоў.

■ Наступіла большая, чым гэта прадбачвалася і чым можна надалей гэта зносіць, звыжка цэн. Адной з асноўных прычын гэтай звыжкі — в'етнамская вайна.

Падкрэсліваем, што гэта аўтэнтычныя словы амерыканскага прэзідэнта, які прадаўжае знішчальную вайну ў В'етнаме.

### ДВА ФРОНТЫ

ЗША зараз вядуць вайну ў В'етнаме на два фронты. Першы датычыць паўднёвага В'етнама, дзе масава знішчаецца ўсё. На 400 тысячах гектараў джунгляў зраўнана ўсё з зямлёю, уключна з жылымі дамамі, пасевамі, а нават іншымі раслінамі, знішчана ўсе запасы рысу, а насельніцтва вывезена ў спецыяльныя канцлагеры. Адкуль мы гэта памятаем?

Другі фронт — гэта налёты на ДРВ. Трэба дадаць, што ў сувязі з гэтымі налётамі ўсё часцей чуюцца галасы пратэсту ад кіраўнікоў паасобных дзяржаў. У апошні час 70 лейбарысцкіх дэпутатаў запатрабавалі ад Вільсана, каб падтрымаў, у справе В'етнама, прапановы У Тана (аб іх мы пісалі ў папярэдніх нумарах).

### ДЫПЛАМАТЫЧНЫ АБМЕН

Румынія з'яўляецца другой сацыялістычнай краінай, якая ад мінулага тыдня ўтрымоўвае дыпламатычныя сувязі з Федэратыўнай Рэспублікай Германіі.

### ВЯРНУЦЬ СКАРБЫ КУЛЬТУРЫ

Выдатныя прадстаўнікі навукі і культуры СССР — м. інш. П. Капіца, С. Коненкаў, Г. Уланава, Д. Шастаковіч і І. Эрэнбург звярнуліся з пісьмом у Міністэрства культуры СССР, каб тое пачало энергічна старацца, каб скарбы рускай культуры, якія зараз знаходзяцца ў руках рускіх беглых эмігрантаў у Францыі, вярнуліся да айчыны. Аўтары пісьма пішуць, што гэтыя скарбы часта прадаюцца асноўным чынам у ЗША.

(ак)

# БССР

### ВЫКАНАННЕ

Цэнтральнае Статыстычнае Упраўленне пры Савеце Міністраў Беларускай ССР апублікавала даныя адносна выканання дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі Беларусі ў 1966 г. Прадукцыйнасць працы ўзрасла ў прамысловасці на 197 працэнтаў, у будаўніцтве на 105 працэнтаў. Здабыча ў беларускіх нафтавых капальнях павялічылася ў 5,3 разоў больш, чым у 1965 годзе.

«Беларусь стала індустрыяльна-аграрнай краінай» — заяўляюць беларускія газеты.

### «ЗОРКІ»

Два дні адбываліся ў Мінску паказальныя выступленні зборных каманд Савецкага Саюза па спартыўнай гімнастыцы. У беларускую сталіцу з'ехаліся амаль усе савецкія алімпійцы. Выступалі сапраўдныя зоркі першай велічыні савецкага спорту — Міхаіл Варонін, Віктар Лісіцкі, Валерыя Карасёва, Віктар Кліменка, Паліна Астахава, Зінаіда Дружыніна, Ларыса Петрык, Наташа Кучынская.

Была, гэта не абы-якая аказія беларускім спартсменам і іх трэнерам.

### ТЫСЯЧА

Гомельскі электратэхнічны завод дае ўнікальную прадукцыю, свае вырабы адпраўляе на тысячу адрасаў — у тым ліку на Кубу, у Манголію, Балгарыю, Венгрыю, Чэхаславакію, Германскую Дэмакратычную Рэспубліку.

### ЛІТВЕ

У Мінскім Акруговым доме афіцэраў адбыўся тэматычны вечар, прысвечаны Літоўскай Рэспубліцы. На вечары выступалі — літоўскі гісторык В. Меркіс, дзеяч Г. Курсявічэне, эканаміст А. Гульбінскас і літоўскі паэт В. Бложэ.

Забіраў голас таксама вядомы беларускі літаратуразнавец А. Мальдзіс.

### ЭЛЕКТРЫЧКА

Украінскія праектоўшчыкі складаюць планы будаўніцтва другой чаргі электрыфікаванай лініі Беларускай чыгункі. Ужо ў наступным годзе быстраходныя і камфартабельныя электрапаязды пойдуць да станцыі Пухавічы. А праз некаторы час адкрыецца скразны рух ад сталіцы Беларусі да буйнага чыгуначнага вузла Асіповічы. Будуецца ўжо высакавольтавая лінія.

### ГАНАРОВЫ

Улады беларускага горада Гомеля пастанавілі прысвоіць званне ганаровага грамадзяніна горада Маршалу Савецкага Саюза Канстанціну Ракасоўскаму.

### БЫКАЎ

Аповесць «Альпійская балада», якую напісаў малады гродзенскі беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, робіць незвычайную кар'еру. Паводле яе зроблена аднайменны фільм, затым радыёспектакль, а цяпер Яўген Глебаў напісаў балет «Альпійская балада», які рыхтуе Беларускі акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балету.

(С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

### СЕРА

У другой чвэрці гэтага года Тарнабжэскі басейн вываэкспартуе мільённую тону чыстай серы. Польскую серу купляе між іншым Чэхаславакія, Швецыя, Нарвегія, Фінляндыя, Бельгія і ФРГ. Ад 1960 года цэны серы на еўрапейскім рынку ўзраслі ў два разы. Польшча зараз знаходзіцца на 6 месцы у свеце ў эксплуатацыі серы. У бягучай пяцігодцы прызначаецца 6 мільярдаў злотых на інвестыцыі ў выдабыцці гэтай сыравіны.

### КЛУБЫ ГАСПАДАРА

У краіне дзейнічае зараз 3500 клубаў гаспадара і каля 600 клубаў «Сучасная гаспадыня». У бліжэйшым часе колькасць клубаў гаспадара павялічыцца да 5000, а клубаў «Сучасная гаспадыня» ў 1970 годзе будзе 2200.

### ШТУЧНАЕ ВАЛАКНО

У гэтым годзе наступіць узрост прадукцыі штучнага валакна на 14 прац. Узрасце перад усім прадукцыя эляны: ваўнападобнай — на 36 прац і бавоўнападобнай — у два разы. Дазволіць гэта выпусціць у продаж большую колькасць высокай якасці кашуль, плашчоў і іншых прадуктаў. Наступіць таксама 13-працэнтны ўзрост стылону. Навінкай будзе «торлен» — валакно, з якога будзе рабіцца гальштукі, фіранкі і некаторыя іншыя прадукты.

### ТУРЫСТЫКА НА МАЗОВІІ

Хаця Мазовія не належыць да найбольш атракцыйных раёнаў краіны, рух турыстычны пабольшыўся тут за апошнія 2 гады з 65 тысяч да 86 тысяч асоб. У бліжэйшым часе прадбачацца турыстычныя інвестыцыі ў Дэмбліне, Пултуску і Кампіноўскай пушчы.

### ЧАСНОК ЛЕПШЫ АД ПІЛЮЛЬ

Пазнаньскія вучоныя і лекары правялі серыю цікавых доследаў над антыбіётычным уздзеяннем часнаку. У доследах праверана ўздзеянне часнаку на 638 рознага тыпу мікробаў. Пад уплывам часнаку ўсе мікробы загінулі. Сярод іх былі такія, якія зусім не рэагавалі на пеніцылін і тэрамыцын. Адпаведна спрэпараваны часнок застасавана з добрым вынікам пры лячэнні некаторых хвароб, якіх нельга было злечыць антыбіётыкамі.

### ВАКЗАЛЫ НА СІЛЕЗІІ

Да канца 1970 года перабудаваных будзе паводле навейшых узораў 17 чыгуначных вакзалаў у розных гарадах Сілезіі. Каштаваць гэта будзе 65 мільёнаў злотых.

### РЭВІЗІЯ

Міністр справядлівасці залажыў надзвычайную рэвізію ад прыгавору Ваяводскага суда ў Кашаліне ў справе Эдмунда Левандоўскага засуджанага на 10 гдоў турмы за забіццё падчас язды самаходам у п'яным стане двух асоб. Міністр запатрабаваў пакарання Левандоўскага 15 гадамі турмы, г. зн. найвышэйшым пакараннем за такога роду злачынства.

# ВАЯВОДСТВА

### ДЛЯ СЯЛЯН

4 лютага адбылося ў Беластоку чарговае пасяджэнне Бюро Ваяводскага камітэта па сельскагаспадарчых справах. На пасяджэнні абмеркавана дзейнасць розных установ Бельскага і Беластоцкага паветаў, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку. Члены бюро асабліва цікавіліся ажыццяўленнем праграмы штучнага апладнення кароў. Для прыкладу: у Беластоцкім павеце ў мінулым годзе каля 100 тысяч кароў было зацеленых шляхам штучнага апладнення.

### КУЛЬТУРА

На супольным пасяджэнні камісіі культуры Ваяводскага камітэта ПАРП і ВРН абмеркавана шматлікія пытанні культурнага развіцця Беласточчыны да 1980 года. У сакавіку адбудзецца сесія ВРН, якая поўнасцю будзе прысвечана праблемам культуры ваяводства.

### КАВЯРНЯ Ў САКОЛЦЫ

Павятовы спажывецкі кааператыў (ПСС) у Саколцы зафундаваў жыхарам горада новую кавярню. Аб'ект гэты вельмі быў тут патрэбны.

### ТЭЛЕВІЗАРЫ І РАДЫЁПРЫЁМНІКІ

У мінулым годзе, жыхары Беластоцкага ваяводства купілі: звыш 14 тысяч тэлевізараў і 8 тысяч радыёпрыёмнікаў.

### КВАТЭРЫ

У 1966 годзе Прэзідыум Гарадской рады нарадовай у Беластоку раздзяліў сярод жыхараў горада 844 кватэры. У гэтым годзе новыя кватэры атрымае 457 сем'яў.

### СОЛТЫСАЎСКІЯ НАРАДЫ

Амаль ва ўсіх паветах ваяводства праходзяць зараз нарады солтысаў і мясцовага актыву. На гэтых нарадах абмяркоўваюцца заданні і роля солтыса ў вёсцы.

### ПАСЫНКАЎСКІ ДРАМГУРТОК

...налічвае 16 членаў і працуе ад верасня мінулага года. Паставіў ён дзве п'есы: «Боты» і «Міхалэк». У рэпертуары драмгуртка ёсць таксама польскія і беларускія песні. Пасынкаўскімі самадзейнікамі шчыра апякуецца настаўніца Оля Панасюк.

### ДОМ НАСТАЎНІКА

Ужо 6 год Бельскі аддзел Саюза польскіх настаўнікаў вядзе збор грошай на фонд пабудовы Дома настаўніка ў Бельску. Накапілася 400 тысяч злотых. Найбольш грошай уплыло, вядома, ад саміх настаўнікаў, вялікую ахвярнасць праявілі працаўнікі ПОМ, чыгуначнікі і міліцыянеры. Грошай ўсё яшчэ аднак замала, каб пачаць пабудову.

### СМЕРЦЬ У АГНІ

Трагедыя здарылася ў мястэчку Супрасль пад Беластокам. У хаце Левана Дубака раптам узнік пажар. Калі беластоцкія пажарнікі патушылі агонь, тады знайшлі яны згарэўшае цела дзіцяці — 6-гадовую Зою, дачку кватаранта.

(вр)




NIEDZIELA 12. II.

10.25 „W starym kinie"; 11.20 „Uroczy wieczór" — film („Czarownice"); 11.45 Wiad. dz.; 12.00 Program filmowy; 12.45 „Muzyka regionalna"; 13.25 PKF; 13.40 „Przemiany"; 14.05 Teatr Młodego Widza; 15.10 „Dojeżdżamy" — rep. film.; 15.25 „Piórkiem i węglem; 15.45 „Wojna domowa"; 16.20 „Spotkanie z pisarzem — Stanisławem Lemem"; 16.45 „Śpiewa Studio Mireille" (Paryz); 17.35 „Plebiscyt Archimedesa"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Sofia); 20.45 Słownik wyrazów obcych; 21.05 „Johny włóczęga" — film fab. USA; 22.35 Niedziela Sport.

PONIEDZIAŁEK 13. II.

16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla dzieci; 17.10 Dla młodych widzów: „Sporty zimowe" odc. II.; 17.35 „Radar"; 17.50 „Nos dla tabakiery"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Od Kaukazu do Tień-Szaniu" — rep. film. cz. II.; 20.20 Teatr TV „Martwa Królowa", dramat Henry de Montherland; 21.40 „Na półkach księgarskich"; 21.50 „Rozmowy o współczesności"; 22.20 Dziennik.

WTOREK 14. II.

9.55 Dla szkół: (kl. IX) — Molier „Skąpiec"; 10.30 „Jesienny dzień" — film fab. wietnamski; 15.25 „Pielęgnacja upraw okopowych"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 Dla dzieci; 17.20 Dla młodych widzów: wizyta u fizyka — atomisty; 17.50 „Bar pod Kaczuszką", 18.00 „Wszystko o Mazowszu" — teleturniej; 18.30 „Ukraiński balet na lodzie" — film rozr. 18.55 „Na morskich szlakach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Kurier Warszawski; 20.15 „Jesienny dzień" — film fab. wietnamski; 20.40 „Panorama Literacka"; 22.20 Dziennik; 22.40 Politechnika TW.

ŚRODA 15. II.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) — „Śladami Archimedesa"; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie; 11.25 „Alfred Hitchcock przedstawia"; 16.30 „Przypominamy, radzimy"; 16.40 Film („Stare gągi"); 16.55 Dziennik; 17.00 „Pan Półka i spółka; 17.20 „Nie tylko dla pań"; 17.40 Sprawozdanie sportowe; w I przerwie — PKF; w II przerwie — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Na niedźwiedzia" — film radziecki; 20.20 „Alfred Hitchcock przedstawia"; 21.10 „Światowid"; 21.40 „Jazz w Filarmonii"; 22.10 Dziennik;

CZWARTEK 16. II.

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „W Krakowie, Poznaniu, Zamościu"; 13.30 Przedolimpijskie zawody narciarskie w Grenoble. Slalom specjalny kobiet; 16.15 Kurs Rolniczy „Mechanizacja sprzętu siana"; 16.45 „Miesiąc dobrego słońca" — film; 16.55 Dziennik; 17.00 Kino Ptyś; 17.25 Dla młodych widzów: „...trzy, dwa, jeden, zero — start!" odc. I; 17.45 „Medale i detale"; 18.05 „Klub dobrych gospodarzy"; 18.30 „Akademia Sztuk Pięknych w Krakowie" — film; 18.50 „Sezam muzyczny"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Przedolimpijskie zawody narciarskie w Grenoble. Slalom specjalny kobiet (powt.) 20.30 „Na tropach zbrodni" — film fab. radz.; 22.00 „Refleksje" 22.30 Dziennik;

PIĄTEK 17. II.

11.00 Przedolimpijskie zawody narciarskie w Grenoble. Bieg zjazdowy mężczyzn; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii — „Co to jest etyka"; 12.45 Dla szkół: (kl. III) „Fabryka"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 „Dolina Królów" — film (odc. II); 17.50 Kurier Mazowiecki; 18.05 Wszechnica TV: „Maszyny myślące"; 18.35 Spotkanie z Marianem Załuckim; 19.00 Program ekonomiczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Teatr TV: „Ostatni liść" O'Henry; 21.10 „Kryptonim PL"; 21.25 „Człowiek ideowy — co to znaczy?; 21.50 Dziennik; 22.05 Przedolimpijskie zawody narciarskie w Grenoble. Bieg zjazdowy mężczyzn.

SOBOTA 18. II.

10.00 „Panienki z międzymiastowej" — film fab. wł.; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Wyżyna Lubelska"; 16.20 Program tygodnia; 16.40 „Gimnastyka młodzieży na MOSF; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Figle z makiem" —kabaret Drops; 17.50 „Spotkania z przyrodą"; 18.15 „Tele-Echo"; 19.00 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Błękitny expres"; 20.25 Dziennik; 20.40 „Panienki z międzymiastowej" — film fab. wł.; 22.05 Wiadomości sportowe; 22.15 Teatr Rozrywki: „Raz, dwa, trzy..." F. Molnara.




**10 lutego (piątek)**

9.00 Dziennik, 9.10 „Pieśni 30-tych lat", 13.25 Program, 13.30 Koncert, 15.20 Program ekonomiczny, 15.50 Dziennik, 16.00 Program przedwyborczy, 17.05 Koncert, 18.00 „Sztafeta nowin", 19.00 Koncert solistów, 19.50 „Śmierć Puszkina". Teatr literacki.

**11 lutego (sobota)**

10.55 Program, 11.00 Dla przedszkolaków, 11.30 Dla szkół, 13.00 Filmy dla dzieci, 13.20 Nowopołock, 14.00 „Klub filmowy", 15.00 Łyżwy. Mistrzestwa świata (mężczyźni) z Oslo, 16.00 „Czas trwogi". Teatr (Moskwa), 18.30 Mistrzostwa świata (Oslo), 19.40 „Błękitny ognik", 20.55 „Dziennik zimowej spartakiady".

**12 lutego (niedziela)**

7.55 Program, 8.00 „Budzik", 9.00 Dla przedszkolaków, 9.25 „Szkatułka muzyczna", 9.50 Architektura rosyjska, 10.05 Dla wojska. Koncert orkiestry dętej, 10.35 Dla młodzieży szkolnej, 11.45 Dziennik, 12.00 Dla dzieci, 12.45 Kiosk muzyczny, 13.15 Łyżwy. Mistrzostwa świata (mężczyźni), 14.35 „Mity XX wieku", 15.05 Mistrzostwa świata, 16.05 Koncert, 16.45 Dla młodzieży, 17.45 Festiwal amatorskich zespołów artystycznych, 18.20 „KWS-67" (Klub Wesołych i Sprytnych), 20.00 Program rozrywkowy z Bułgarii, 20.45 Dziennik.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Народная культура Беласточчыны ў фондах Этнаграфічнага музея ў Торуне

Торунскі музей з'яўляецца адным з наймалодшых этнаграфічных музеяў у Польшчы — заснаваўся ён у 1959 г. Зберагае ён зараз 987 вельмі каштоўных для навукі экспанатаў з Беласточчыны. Найбольшая колькасць экспанатаў з беларускіх паветаў: Сакольскага (267) і Гайнаўскага (254). Акрэсліваючы характар (спецыфіку, функцыянальнасць) экспанатаў, якія паходзяць з паасобных паветаў Беласточчыны, трэба сказаць, што яна разнародная, але аднaчасова характарызуе той, ці іншы павет. Напр., з паўночных паветаў пераважаюць экспанаты народнага мастацтва, як велікодныя пісанкі, папяровыя выстругaнкі, мастацкае ткацтва і інш., з паветаў Сакольскага — ткацтва, бондарскія вырабы, землябробныя прылады, народнае адзенне, кірмашныя цацкі (з цеста) і інш., Гайнаўскага — пераважна ганчарныя вырабы, народнае адзенне, земляробныя прылады, ткацтва і інш. Сярод экспанатаў, якія паходзяць з беларускага асяроддзя, маюцца выключна рэдкія прадметы і нават непаўторныя. Гэта земляробныя прылады, прадметы народнага традыцыйнага адзення, прылады да апрацоўкі валакна, прадметы транспарта, рыбалоўства, мераў і вагаў і г.д.

Трэба таксама падкрэсліць, што на сталых экспазіцыях Торунскага этнаграфічнага музея багата дэманструюцца экспанаты Беласточчыны, напрыклад, у аддзеле ткацтва, ганчарства, апрацоўка дрэва, народнае адзенне, земляробныя прылады і інш.

У зашклёнай шафцы на экспазіцыйнай зале два манекены паказваюць народнае адзенне беларусаў, дзе віднеецца таблічка «Białorusini». На жаль, паказана адзенне толькі жанчын, мужчынскага — арыгінальнага ўжо не ўдалося знайсці.

Па функцыянальнасці экспанаты Беласточчыны прадстаўляюцца як на III табліцы:

| Назва галіны нар. культуры | лік прадм. |
|---|---|
| **Паляўніцтва** | 6 |
| Жывёлагадоўля | 10 |
| Рыбалоўства | 44 |
| Пчалярства | 14 |
| Земляробства | 43 |
| Ткацтва | 113 |
| Адзенне | 86 |
| **Пляцёнкі** | 37 |
| Хатнія прылады | 70 |
| Бондарства | 49 |
| Ганчарства | 169 |
| Транспарт | 11 |
| Мастацтва | 239 |
| Абрадавыя прадметы | 7 |
| Музычныя інструменты | 6 |
| Кірмашныя цацкі (з цеста) | 83 |

Усяго 987 экспанатаў.

**М. Пецюкевіч**
Фота З. Згерун



**Аўтар артыкула пры арганізацыі аддзела па апрацоўцы валакністых раслін і ткацтва.**



**Пасажны цэбар з вёскі Востраў Паўночны на экспазіцыі.**



**Кросны да шырокіх тканін з в. Лініна, Сакольскага пав., на экспазіцыі.**



**Ганчарскія вырабы Андрэя Анцуты з Лукі на экспазіцыі.**

# РАЗМОВА АБ ХВОРЫХ І ЛЯЧЭННІ

Унутраныя хваробы— гэта нібы ўсё. А калі нават у сучаснай медыцыне вылучылася мноства розных хвароб у асобныя групы, унутраныя застаюцца найбольшай і найчасцейшай групай.

Беластоцкая II клініка Медыцынскай Акадэміі існуе ўжо 15 год. Ад пачатку ёю кіруе праф. др ЯКУБ ХЛЯБОЎСКІ. Вучоны і арганізатар. Выдаў 4 кніжкі, 70 навуковых прац. Чытае лекцыі ў краіне і за граніцай.

— Клініка, гаворым. А што такое клініка?

— Клініка — гэта не толькі хворыя, але і варштат навуковай працы. Клініка мае тры заданні:

1) навучанне студэнтаў,

2) навуковая праца — гэтыя два заданні спалучаюцца,

3) паслугі хворым на самым высокім узроўні.

— Людзі кажуць, што тут на іх праводзяцца доследы.

— Клініка мае права весці доследы. Але мы маем права выкарыстаць здабычы навукі, каб спраўдзіць: памагае, ці не памагае даны лек, або даны спосаб лячэння. Запомніце: не ставім пытання: шкодзіць ці не. Клініка найперш і часта толькі мае доступ да навейшых лекаў краёвых і заграничных. Яе заданнем даць адказ, ці яны памагаюць у хваробе.

— Хворы не ідзе тады на ніякі рыск?

— Рыску ніякага! Клініка — гэта найвышэйшы стандарт лячэння. Дабро хворага ў нас найбольшым правам. Яно абавязвае ўсіх у клініцы.

— Прызнацца, я таксама думала, што ў клініцы можа быць праведзены дослед і што ён важнейшы часта чым лячэнне. Але я згаджалася, што так павінна быць. Для будучыні здабываем веды на сабе.

— Вы памыляецеся ад пачатку да канца, хоць такімі прыгожымі словамі гаворыце. Небяспечных для хворага бадання мы не робім. Гэта падкрэсліце! І ўвогуле ўсё робім з найбольшай асцярожнасцю і тое, чаго мы пэўны, што не зашкодзіць.

— Ад лекара ўнутраных хвароб людзі чакаюць, каб ён іх доўга і дакладна абстукваў і адгадаў хваробу.

— Гэта стары погляд, што лекар толькі абстукае і вылечыць. Вось вам гісторыя хваробы. Тут вельмі дакладна і ўсебакова бадаецца хворага штодзень. Сваё слова кажуць лекары ўсіх спецыяльнасцей.

— Але вы, прафесар, славіцеся, што ўмееце адразу, без розных баданняў руркамі і ўколамі распазнаць хваробу.

— Гэта справа вопыту. Але сучасны лекар не можа абысціся без комплекснага бадання ўсімі спосабамі. Лекар часта можа дапускаць, але ў далейшым шукае пацвярджэння сваіх гіпатэз. Мой прафесар казаў, што абстукванне і размова з хворым вельмі важныя.

— Крыху аб навуковай 15-гадовай спадчыне клінікі.

— Наша клініка цікавіцца найбольш такімі напрамкамі: цукшыца, перамена матэрыі — шчытападобная залоза (тарчыца), хваробы страўніка з пячэняй і тшусткай. Маем аднак добрыя працы і з іншых хвароб — сэрца, крыві. Мой погляд такі, што лекар унутраных хвароб павінен ведаць усяго хворага.

У нашай клініцы працуе два дацэнты, чатыры ад'юнкты. Клініка выпусціла 9 доктараў, 4 будзе бараніць дактаратаў. 40 спецыялістаў першай ступені і 25 другой ад нас выйшла. Апублікавалі мы 200 навуковых прац. Нашы вучоныя ездзяць за граніцу, высока цэняцца ў нас.

— Дзякую за размову.

**Вера Леўчук**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



# МБМ

(Працяг са стар. 1)

— А ім няма чаго крыўдаваць. У кожнай вёсцы дзейнічае **рада** карыстаючых з машын. Яна на пачатку кожнага года састаўляе спіскі заказаў і дбае, каб была захавана чарговасць згодна гэтым спіскам. Без згоды хаця адной **рады** праўленне «МБМ» не можа нічога купіць і прадаць, **рады** таксама ўстанаўліваюць і зацвярджаюць планы гаспадарчай дзейнасці базы, яны вырашаюць справы між праўленнем і гаспадарамі.

— Якія карысці дае заснаванне гэтага тыпу «МБМ?»

Да размовы ўключаецца старшыня праўлення «МБМ» **Мікалай Данілюк.**

— Бачылі вы нашыя гаражы, — гаворыць ён. — Трактары ў нас не стаяць пад голым небам. А гэта важная справа. Не лічачы трактарыстаў і каваля-механіка, маем трох штатных кіруючых працаўнікоў. Яны нясуць асабістую адказнасць за грамадскае дабро і за дзейнасць нашай «МБМ». Простыя рамонты можам праводзіць на месцы ўласнымі сіламі. Калі многа машын, можна іх так скамплектаваць, каб былі яны прыгодныя для кожнага роду працы пры кожных умовах. Адзіночны гурток гэтакіх магчымасцей не мае.

На гэтым не канчаюцца гаспадарчыя справы сакоўскай «МБМ». Тры гады таму назад загаспадаравала яна 51 гектар дзяржаўнай зямлі. На 36 гектарах завялі адборную траву, а 15 гектараў поля абсяваюць жытам, аўсом, пшаніцай, ільном, лубінам і бульбай. Прыбытак за 1966 — 43.500 зл.

**...Цяпер школа аказалася цеснай, дык жыхары вёскі вырашылі пабудаваць другі будынак.**



**Сакоўская «МБМ» мае ўласную кузню, з якой карыстаюць сяляне навакольных вёсак. Тут можна, як бачым на здымку, падкаваць каня і абсталяваць усё іншае, што трэба для гаспадаркі.**

На весну гэтага года побач камплекту будынкаў «МБМ» маладыя і старэйшыя жыхары вёскі Сакі прыступяць да пабудовы ўласнага вясковага клуба.

Выяўляецца цікавая паслядоўнасць: спярша школа, потым злеўня малака, далей «МБМ» і ўрэшце культурны аб'ект. Вось так і павінна быць.

**В. Рудчык**
Фота аўтара

**СТРАХ ВЕЛЬМІ ЖЫВУЧЫ**

# ЦЕНІ МІНУЛАГА

Ён паявіўся ў рэдакцыі «Нівы». Яго твар гарэў, патрэбны яму адзін нумар «Нівы». Нашто? Загаварыў, спалохаўся і ўцёк.

Нашто патрэбна яму «Ніва»? Справа не ў тым, што ён не чытае «Нівы» і прыйшоў па яе аж у рэдакцыю...

### ЯГО СЯБРА

У тым нумары «Нівы» напісана пра яго сябра, чалавека з цёмным мінулым, якога ўсе баяцца, і таму можа ён счаўпсці многае, і бяскарна. Напрыклад, нядаўна Павятовы суд ачысціў сябра ад віны за зласлівае знеслаўлянне суседкі, сведкі маўчалі, як пабітыя! Быў на гэтым судзе і ён, засведчыў на карысць свайго сябра.

Адзін і другі — неразлучныя сябры на жыццё і смерць, хаця першы з іх жыве ўжо даўно ў Беластоку, а другі — у далёкім вясковым мястэчку. Той нумар «Нівы» спатрэбіўся яму, каб зайсці да адваката, паказаць адвакату напісанае пра свайго сябра і запытаць адваката, ці будзе магчымым падаць «Ніву» ў суд і выйграць суд — «за беспадстаўнае публічнае знеслаўленне». І выбеліць сябра, як дзеву прачыстую! Ён — відаць гэта па ім — ахвотна не займаўся б увогуле гэтай справай, але, калі сябар настойвае, ён не можа адмовіць сваёй дапамогі, бо быў бы канец згодзе. Прытым сябар пэўны: ніхто не пасведчыць супроць!

І так жывуць сабе на свеце два сябры.

Сябар, у часы савецкай улады на Беласточчыне, сядзеў у Беластоцкай турме за заядлую антысавецкую дзейнасць. Летам 1941 года прыйшлі нямецкія фашысты і яго сябар стаў вызваленым чалавекам, стаў гітлераўскім солтысам. Ого, зрабіўся не абы-чым! Сябар не супроць быў таго, каб злавіць аднаго-другога савецкага салдата, што хаваліся, і перадаць у валасатыя лапы жандараў; сябар не супроць быў таго, каб выдаць жандарам жонку партызана; сябар не супроць быў таго, каб выслаць чым набольш мясцовай моладзі на нявольніцкія работы ў Нямеччыну — выслаць дзяўчат, якіх потым зганьбіла вайна. Сябар не супроць быў таго, каб жандары злавілі сваяка: уцёк з нямецкай няволі сваяк, хаваўся ў яго хаце, аж каторагась дня сябар уладзіў сваяку «лепшае» сховішча, сваяк залез туды і ў тую ж ноч прыйшлі жандары, прыйшлі пэўным крокам, злавілі, пагналі сваяка — смяяліся яму ў твар, што ён хаваўся ў гэтай хаце.

Калі наступіў савецкі фронт у 1944 годзе, яго сябар хутка даў драла далёка ўглыб Беларусі, туды, дзе яго ніхто не ведае. Ды і там пачала гарэць пад ім зямля, сябар прыбіўся да пагранічнай беларускай вёскі з намерам перайсці граніцу, уцячы ўглыб Польшчы. Пераадзяваўся за бабу і з мясцовымі кабетамі хадзіў у поле працаваць, дакладней кажучы, хадзіў на разведку мясцін для бяспечнага пераходу. Сябар, здаравенны мужык амаль двухметравай вышыні і ў бабскім адзенні, выглядаў так, што бабы каналі ад смеху. Аднак сябру было не да рогату, не вытрымаў і ўцёк няведама куды. Вярнуўся на родную гаспадарку пры аказіі другой рэпатрыяцыі з СССР у Польшчу. Быў ціхусенькі, потым зразумеў, што яго тут усё яшчэ баяцца, і падняў рогі, і падымае іх штораз вышэй.

### ЁН

Без сябра з акупацыйных часоў ён кепска чуўся, перабраўся ў Беласток. Перажыў цэлыя тыдні дзікага страху, калі загрымеў, выразна загрымеў савецкі фронт. Пахудзеў, памізарнеў, знябожыўся зусім. Так сказаць, мучыла яго сумленне.

У адзін акупацыйны дзень ён навёў на швагра жандараў з сабакамі, швагер выдаўся яму ненавіснікам немцаў. Швагер цудам проста ўцёк перад жандарамі цераз акно, дзеці не маглі нават плакаць ад перапалоху, а іх матку жандары выгналі на вуліцу і цкавалі яе сабакаю, і білі, аж пакуль рыгнула крывёю. Ён з жонкаю стаялі, смяяліся, потым дзякавалі і кланяліся шэфу жандараў: — дзенкуемы, дзенкуемы! — шэф разумеў толькі па-польску. А ў дні вызвалення ён з жонкаю і сваімі дзіцянятамі забеглі да хаты швагра, пападалі на калені, заплакалі ліслівымі слязьмі, цалавалі ў ногі і прасілі прабачэння. Ён закалоў кормніка, швагер злітаваўся, прабачыў.

Старэйшы сын швагра, які добра помніў той жудасны акупацыйны дзень, не перанёс усяго таго, дастаў растрою нерваў, падпаліў яго гумно і сам павесіўся. Але ён жыў ужо ў Беластоку.

Ён напэўна помніць, як кідаў у ямы пастраляных савецкіх салдат і крычаў, што ўсім камуністам так будзе! Ніхто не крычаў, толькі ён крычаў. А ягоны сябар добра ведае і пра другія яго ўчынкі, разам хадзілі, рагаталі.

І так жывуць на свеце два сябры.

Іх з'яўленне наводзіць страх на вуліцы, **страх у дваццаць два гады пасля вайны!**

**(А. М.)**

(Працяг са стар. 1)

# Вялікі турыстычны конкурс

экскурсій у розныя краіны. (Гэтыя ўзнагароды будуць разлясаваны сярод усіх удзельнікаў конкурсу. Хто мае больш купонаў, мае больш шанцаў);

тры бясплатныя экскурсіі за граніцу для тых, хто арганізуе найбольш экскурсій, г.зн. маюць найбольш купонаў.

### ПАДСУМАВАННЕ КОНКУРСУ

Падсумаванне конкурсу адбудзецца 30 кастрычніка 1967 года. У сувязі з гэтым толькі да 20 кастрычніка аддзелы «Грамады» будуць прымаць купоны конкурсу. Пры перасылцы вырашае дата на пячатцы пошты.

### КОНКУРСНАЯ КАМІСІЯ

Цэласцю конкурсу кіруе камісія з пяці чалавек, у склад якой уваходзіць дырэктар ваяводскага аддзела «Грамады» — Л. Каралеўскі, а таксама прадстаўнікі рэдакцый: «Газеты Беластоцкай» — рэд. К. Маршалэк-Млынчык, «Нашай Всі» — рэд. Е. Савіцкі, «Нівы» — рэд. В. Валкавыцкая, радыё — рэд. Я. Утка.

Такім чынам, конкурс ужо аб'яўлены. На парадку дня лозунг: «Арганізатары экскурсій, на старт!»

Чакаем Вашых заявак!

Узнагароды чакаюць!

# Узнагарода журналісту „Нівы"

Галоўнае праўленне Лігі аховы прыроды прысвоіла журналісту «Нівы», **Сакрату Яновічу** трэцюю ўзнагароду за яго цыкл артыкулаў аб прыродзе і яе ахове, якія былі замешчаны ў летніх нумарах нашага тыднёвіка. С. Яновіч як узнагароду атрымаў палатку.

Шчыра яго віншуем.

Узнагарода гэтая тым больш нас цешыць, што за яе змагаліся многія журналісты з цэнтральных тыднёвікаў і часопісаў.

Прыпамінаем, што С. Яновіч за свае артыкулы аб ахове прыроды заваяваў у Беластоку — І-ую ўзнагароду. (вр)

**А. Баршчэўскі і В. Швед**

# Дружба і праца

**ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА**

**КРЫНІЦЫ»**

— Вось так буду ляжаць да вечара і не паварушуся! — абвясціў Валодзя Полаз, расцягнуўшыся на мураву зарослай сцежкі ў школьным садзе. — Цішыня. Чуеце, недзе пчолы звіняць, яны збіраюць мёд. Воблачкі вунь. Плывіце, збірайцеся ў хмары — палям трэба дождж. Сонца смаліць, ажно дыхаць цяжка. Гэта яго абавязак — яно дае жыццё ўсім і ўсяму і ў тым ліку мне, гультаю, які напісаў сачыненне на тройку. Так, Лявон? Маўчыш? Правільна робіш. Хопіць хвалявацца? Хоць якія ў цябе хваляванні? У цябе адны пяцёркі... Але ўсё роўна, і ты маеш права адпачыць душой і целам. Давайце ляжаць і маўчаць да вечара. Маўчаць! Чаго стракочуць гэтыя сарокі? Што іх хвалюе? Пятро, паглядзі. Маўчыцё, гады? Ну, і ліха з вамі! Думаеце, я паварушуся? Таксама маўчу.

Крыху воддаль, пад іншымі дрэвамі, ляжалі яго сябры і сапраўды маўчалі, толькі ўсміхаліся з яго слоў. Каля будана двое хлопцаў гулялі ў шахматы. А па сцежцы каля Крыніцы, хадзіў з Кацяй Павел Баранец і, магчыма, чытаў ёй уласныя вершы ці пасвячаў у таямніцы найпрыгажэйшага з чалавечых пачуццяў. У апошні час ён пасмялеў, пасталеў і бясконца расказваў дзяўчатам пра каханне, даводзячы вялікую сілу і прыгажосць гэтага пачуцця прыкладамі з класічнай літаратуры.

Ішоў апошні экзамен — па беларускай літаратуры. Здавалі апошнія вучні. А таму ніхто ўжо не хваляваўся і не перажываў за сяброў: здадуць, тым больш, што перад камісіяй засталіся моцныя выпускнікі. Праўда, дзяўчаты чакалі вынікаў у двары, на сонцапёку, сядзелі на вынесеных з класа партах і выказвалі адна адной свой страх перад будучыняй. Усім хацелася паступіць у інстытут, але не ўсе былі ўпэўнены, што жаданне іх здзейсніцца.

Школа, з якой яны выходзілі ў шырокі невядомы прастор, стаяла пустая і сумна глядзела на сваіх выхаванцаў адчыненымі насцеж вокнамі. Толькі вокны дырэктарскай кватэры смяяліся: ласкава калыхаліся прыгожыя гардзіны, гарэлі кветкі руж і герані на падаконніках. Дзяўчат цягнула заглянуць у гэты прыгожы куток чужога жыцця.

— А прыемна вось так ляжаць і ні пра што не думаць...

— І маўчаць! — дадаў Лявон з іроніяй.

— І маўчаць, — згадзіўся Валодзя. — Будзе Лемяшэвіч клікаць, каб віншаваць, — не пайду. Ён шчаслівы — у яго жонка прыгожая. А ў мяне тройка па рускай...

Але ён падхапіўся першы, як толькі дзяўчаты ў двары зашумелі.

— Пайшлі, хлопцы. Здаецца, усё. Хіба тут паляжыш спакойна?

Дзяўчаты абнімалі Раю, якая здала апошняй, і толькі цяпер віншавалі адна адну, толькі цяпер, забыўшыся і на тыя цяжкасці, якія адышлі ў мінулае, і на тыя, якія чакаюць іх наперадзе, бурна выражалі сваю радасць.

З саду ляніва і паважна выходзілі хлопцы, як сапраўды ўжо сталыя людзі. Абвясцілі вынікі. Лемяшкевіч павіншаваў выпускнікоў. Доўга, шумна і весела дамаўляліся наконт правядзення выпускнога вечара. А калі выйшлі на вуліцу і глянулі на школу, то зноў усім стала сумна, і яны спыніліся, як бы жадаючы запытаць адзін аднаго: а што далей?

Рая прапанавала:

— Хлопцы, дзяўчаткі! Давайце наведаем Данілу Платонавіча!

Усе горача падтрымалі і нават адчулі сябе няёмка: як гэта яны забыліся ў хваляваннях і радасці пра свайго старога хворага настаўніка. Тым больш недаравальна, што сёння яны здавалі яго прадмет, які ён выкладаў з такой бязмежнай любоўю.

Даніла Платонавіч цяжка хварэў ужо тры месяцы. Цяпер старому стала крыху лепш, і Наталля Пятроўна дазволіла яму выходзіць у цёплыя дні, у сад, быць сярод сваіх вулляў, якія, пад яго кіраўніцтвам, даглядалі Вольга Калінаўна і Лемяшэвіч.

Даніла Платонавіч сядзеў пад разгалістай грушай у старым крэсле накрыўшы свае хворыя рэўматычныя ногі цёплай коўдрай і драмаў.

Бабуля Наста ўбачыла вучняў, сказала:

— Ідуць да цябе.

Яны ішлі па сцежцы адзін за адным, урачыстыя, прыціхлыя, усведамляючы сваю сталасць і важнасць моманту, наперадзе — дзяўчаты, за імі — хлопцы.

Стары глянуў, радасна ажывіўся, паправіў каўнер белай кашулі і нават



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ПУСТКІ І ХЛЕБ

Ідучы да вёскі Юраўляны, па правай руцэ, ёсць вялікае поле і чорна-зялёны маладняк. Мала маладняку, толькі поле і поле. Гэтае поле называюць Юраўлянскімі горамі. Яно пагоркаватае, пясчанае, камяністае — словам, ёсць усё, што найгоршае можна сказаць аб полі. Праўдзівая пустыня, мо і не пустыня, але пустка ўдзірванелая і нічыя.

Даўно таму назад тут запыхкалі трактары ды загаласлівіла людская праца. У вёсцы ўжо ведалі, што ў Юраўлянскіх горах арганізуецца ПГР, было гэта яшчэ перад пасадкамі маладняку. Некаторыя хадзілі туды на заробкі і расказвалі, якое малое збожжа расце ў ПГР-ы. Зрэшты, ніхто не здзівіўся ад гэтых расказаў, бо ў Юраўлянскіх горах заўсёды малое збожжа расло, яшчэ да вайны, калі Юраўлянскія горы аралі і абсявалі гаспадары з навакольных вёсак, і не раз пабіліся паміж сабою за мяжу. У наш час ураслася тут махаватая трава і ў ёй відаць яшчэ цені даўных палосак. Цені смешна вузкія і страшэнна доўгія, з пагорка на пагорак.

ПГР у Юраўлянскіх горах не ўтрымаўся.

У Беластоцкім ваяводстве налічваецца каля пяцідзесяці тысяч гектараў аблогаў, пакінутых земляў. Так вынікае з першых даных сельскагаспадарчага перапісу, які адбыўся ў чэрвені. Пераглядаючы гэты перапіс можна даведацца, што ў Сакольскім павеце налічана амаль трынаццаць тысяч гектараў аблогаў. Мала менш і ў Беластоцкім павеце. Юраўлянскія горы ў Сакольскім павеце, у гэтых горах рос дрымучы лес сто — сто пяцьдзесят год таму назад; каля гэтых гор ёсць мясціна, званая Разбойнік і, як кажуць старыя людзі, калісьці хтосьці забіў кагосьці ў цёмным лесе.

Няцяжка пераканацца, што абложныя землі ў пераважнасці там, дзе ў недалёкім гістарычным мінулым рос лес, расла пушча. Вырубалі яе, прадалі, выкарчавалі, зааралі, засеялі, зрабілі поле. Мізэрнае поле.

Цяпер поле пакінутае.

І гаворым, што людзі пакідаюць зямлю, бачым бяскрайныя пусткі. Бачым аблогі, іх многа ва ўсходняй ці паўночна-заходняй частцы ваяводства. Там добрая зямля, там яна ў цане.

Добрае поле не пакінутае, знайшліся на яго аматары.

Нашы спецы ад сельскай гаспадаркі парахавалі, што і на слабых землях таксама аплаціцца гаспадарыць, але калі гэта гаспадарка будзе вялікай, ПГР-аўскай. Яны не спяшаюць садзіць лес усюды, дзе ён рос, лясныя пасадкі праводзіцца толькі на нікудышніх «рэзтавых» палетках. Ёсць намер стварыць шэраг ПГР-аў, гігантычных гаспадарак — у Ялоўскай аколіцы, у Тапалянскай аколіцы, у Крушынянаўскай аколіцы, у Крынках і, бадай, у Шудзялаве або Бабіках. Вядома, спачатку патрэбна камасацыя, патрэбна ліквідаваць цераспалосіцу. Сельскагаспадарчыя машыны здольныя «абрабіць» вялікія абшары і танным коштам, высокамеханізаваныя ПГР-ы павінны даць даход і, што найважнейшае, павінны даць шмат збожжа, якога мала маем і давозім яго з заграніцы. Гэта галоўная прычына, якая перашкодзіць наступленню пушчаў на тыя землі, адкуль беларускі чалавек калісьці прагнаў іх разам са звярамі, духамі і... разбойнікамі.

ПГР у Юраўлянскіх горах меў вельмі мала тэхнікі, апіраўся на працы наёмных людзей, якім трэ было плаціць па сто злотых у дзень, а часамі і больш. А трактарысты наракалі на камяністую зямлю і паказвалі паломаныя лемяшы.

Такія нараканні пачуем яшчэ не раз у будучых ПГР-ах.

**Кастусь Янкоўскі**

**СПАРТЫЎНЫЯ ПАРТРЭТЫ**



## АЛЯКСАНДР МУШЫНСКІ

Аляксандр Мушынскі — адзін з вядучых беластоцкіх баксёраў. Нарадзіўся ў 1943 г. у вёсцы Талькоўшчына (Сакольскі павет). Пазнаёміўся з боксам будучы вучнем Засаднічай Мясной школы ў Беластоку. У 1959 г. уступіў у спартыўны клуб «Гвардыя», членам якога з'яўляецца да сёння. У 1961 г. Аляксандр Мушынскі заваяваў званне чэмпіёна юньёраў беластоцкай акругі ў пюрковай вагавай катэгорыі. Ад 1962 г. штогод заваёўвае ён званне чэмпіёна акругі сярод сеньёраў (у гэтай самай вагавай катэгорыі). Працуе ў Беластоку на мясным заводзе і, як кажа, сваімі рукамі прапускае ў дзень па 6 тон мяса.

Ю. Леў

ЛЮДЗІ І ЧАС

# ЖЫЦЦЁ — ЗМАГАННЕ

Мікалая Парфенюка сустрэў я ў яго хаце ў Бельску Падляшскім. Парфенюк якраз гуляў са сваім малым унукам, унук бегаў па хаце і смяяўся весела да дзеда. Ад 1960 года Мікалай Парфенюк — пенсіянер. Зазвычай да абавязкаў пенсіянера належыць апека над унукамі ў зацішшы спакойнага, утульнага сямейнага жыцця. У Парфенюка — гэта аднак не зусім так. На пенсію Мікалай Парфенюк адышоў даволі рана па прычыне недахопаў здароўя. Адбіліся тут усе цяжкасці жыцця, якое было амаль адным змаганнем. Аднак і зараз Мікалай Парфенюк не пакідае грамадскай дзейнасці. Ён надалей з'яўляецца членам экзекутывы Павятовага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, членам Гарадской рады нарадовай, старшынёю Камісіі гаспадаркі камунальнай, членам Камісіі партыйнага кантролю Ваяводскага камітэта ПАРП, членам шматлікіх іншых арганізацый і іх улад.

Нарадзіўся Мікалай Парфенюк у 1903 годзе ў вёсцы Кленікі ў беднай сялянскай сям'і. Рана ў юнацкія гады сутыкаецца з рэвалюцыйным рухам, а маючы 18 гадоў стаецца ўжо членам КПЗБ. Дзейнічае як актывіст партыі не толькі ў сваёй вёсцы, але на тэрыторыі амаль ўсяго тагачаснага Бельскага павета.

Потым прышлі суровыя гады гітлераўскай акупацыі. Трэба было вастрыё барацьбы накіраваць супраць акупанта. Ва ўсёй краіне ўзнікаюць антыфашысцкія камітэты, якімі кіруюць камуністы, і якія ўз'ядноўваюць шырокія масы народу да барацьбы з захопнікам. Антыфашысцкі камітэт заснаваўся і ў Бельску Падляшскім. Арганізаваў яго, супольна з сябрамі камуністамі, Мікалай Парфенюк. Камітэт вёў усебаковую падпольную дзейнасць, найбольшым аднак яго дасягненнем быў арганізаваны камітэтам партызанскі атрад, які дзейнічаў у раёне Белавежскай пушчы.

Барацьба не закончылася аднак з разгромам нямецкага фашызму. Зараз жа пасля вызвалення трэба было пачынаць не менш зацятую барацьбу з уласнай рэакцыяй, з рэакцыйным падполлем, якое на тэрыторыі Бельскага павета вяло асабліва насіленую дзейнасць. Мікалай Парфенюк прымае ўдзел у арганізаванні першай ячэйкі ППР у Бельску Падляшскім, якая была адначасова адной з першых арганізацый ППР у ваяводстве. Неўзабаве, яшчэ ўлетку 1944 года пачынаюцца захады над арганізаваннем Павятовага камітэта ППР у Бельску. Сходы таварышоў-камуністаў Бельшчыны адбываліся ў прыватнай хаце Мікалая Парфенюка. 5 лістапада 1944 года адбылося першае пасяджэнне Павятовага камітэта ППР у Бельску. Быў гэта адначасова першы Павятовы камітэт ППР у ваяводстве. Мікалай Парфенюк займае ў ім становішча II сакратара і стаецца штатным працаўніком камітэта. Пачынаецца зацятая, цяжкая барацьба за ўтрыманне народнай улады. Банды рэакцыйнага падполля зверскім спосабам забіваюць сяброў Парфенюка, актыўных арганізатараў масава разбудоўваючайся партыі — ППР. Гінуць таварышы камуністы ў Нараўцы, Мілейчыцах, Цеханоўцы, Пухлах, Боцьках і іншых вёсках і асадах.

Нягледзячы на крывавы тэрор, ППР развіваешца з месяца на месяц. Масы



**Мікалай Парфенюк — адзін з арганізатараў ППР на Бельшчыне.**

**Фота: Ул Паўлючук**

згуртоўваюцца да барацьбы з рэакцыяй, якая імкнулася павярнуць кола гісторыі назад. Кіруе імі некалькіасабовы камітэт, у якім адной з найбольш відных асоб быў Мікалай Парфенюк.

**Ул. Паўлючук**

прыгладзіў рэшткі валасоў над скронямі, якія за час хваробы сталі мяккімі, як у дзіцяці, і белымі, як снег.

Яны падыходзілі, спыняліся і збянтэжана віталіся кожны асобна.

— Добры дзень, Даніла Платонавіч.

— Добры дзень.

— Добрага здароўя.

Яго глыбока запалыя вочы сталі вільготныя, і адразу ж слёзы павіслі на вейках у дзяўчат. Расчулены, узрадаваны, ён працягнуў насустрач вучням абедзве рукі. Тады яны ў адзін міг абкружылі яго, скрыжавалі свае гарачыя дужыя рукі на яго слабых, сухіх руках, асцярожна паціскалі пальцы, кісць, локаць, а смялейшыя — Валодзя і Каця — лёгка абнялі за плечы.

— Віншую вас, віншую... І дзякую. Дзякую сябры мае. Сядайце. Расказвайце...

Яны расселіся на траве, насупраць, і пачалі расказваць, як здавалі ягоны прадмет. Расказвалі весела і шчыра, так шчыра, як бадай што ніколі яшчэ не расказвалі нават яму, свайму любімаму настаўніку. А весялосць іх ішла ад таго, што самі яны не ўправіліся яшчэ абмеркаваць гэты апошні экзамен і цяпер успаміналі, прыгадвалі адзін аднаму ўсе цікавыя і смешныя моманты. Акрамя таго, ім хацелася адчуваць сябе незалежнымі і сталымі, і яны не заўважылі. як зноў ператварыліся ў свавольных і смяшлівых дзяцей. Яны расказалі, як Ніна, адказаўшы на адно пытанне, папрасіла ў камісіі вады, а вады ў класе не аказалася; як Валодзя Полаз хацеў выцягнуць з рукава шпаргалку, а Міхась Кірылавіч убачыў і пагразіў пальцам, але нічога не сказаў, і Валодзя ўсё-такі выцягнуў шпаргалку; як уся камісія не магла спыніць Паўла Варанца, калі ён пачаў гаварыць пра каханне Янука і Раіны.

— Ён жа расказваў, чаго і ў паэме няма!

— З уласнай біяграфіі.

— Ого! Біяграфія ў Паўліка багатая!

Даніла Платонавіч смяяўся шчыра і весела, гэтак жа як і яны, маладыя, бадзёрыя. Магчыма, у гэтыя хвіліны ён забыўся на сваю хваробу і на гады. Бабка Наста стаяла збоку, глядзела сваімі яшчэ даволі зоркімі вачамі, але нічога не чула, і дакорліва ківала галавой.

Потым, відаць, адчуўшы, што нагаварылі залішне глупства і замнога жартуюць каля хворага чалавека, выпускнікі неяк адразу ўсе замоўклі, сумеліся, пазіралі адзін на аднаго, як бы падказваючы: «Скажыце ж хто-небудзь хоць адно слова разумнае».

**Заканчэнне за тыдзень**

**НАШЫЯ НАСТАЎНІКІ**

## АРСЕНЬ ЗІНЕВІЧ

Арсень Зіневіч настаўнік-пенсіянер. Па сутнасці дык нельга яго назваць і пенсіянерам, з той прычыны, што зараз міма таго, што на пенсіі, навучае ў школе. У агульнаадукацыйным **ліцэі ў Міхалове вучыць роднай беларускай мовы.** Навучае не толькі таму, што няма каму вучыць бел. мовы, але перад усім таму, што адчувае патрэбу навучаць роднай мове беларускую моладзь. Патрэбу гэту А. Зіневіч адчуў даўно, калі яшчэ не быў... Але пачнем ад пачатку.

### У НОВАЙ ВОЛІ

А. Зіневіч не адразу быў настаўнікам. Але змагацца за беларускую школу, ды і не толькі, прышлося тут у сваёй роднай вёсцы. Недарма міхалоўская санацыйная паліцыя «апекавалася» Новай Воляй. Усё ж тут існаваў вялікі гурток Таварыства беларускай школы і Грамады. Іменна адным з членаў абедзвюх арганізацый быў **Арсень Зіневіч.** Па сённяшні дзень сцеражэцца ў яго **членскі білет ТБШ № 254** выданы 11 студзеня 1932 года.

У Новай Волі ставілася многа п'ес на беларускай мове.

Педагагічную, настаўніцкую працу пачаў А. Зіневіч у 1939 годзе настаўнікам тут жа ў Новай Волі. Гэтую дзейнасць аднак перарвала вайна. Але адразу пасля вызвалення родных вёсак ад акупанта Арсень Зіневіч зноў пачынае вучыць і арганізаваць школьніцтва, арганізаваць і вучыць. Спачатку працуе ў нававалянскай школе, а потым кіраўніком школы ў Баршчэве.

— Цяжкая тут была праца, — гаворыць. — У Баршчэве была школа падвойная. Так, так. Не было такога загаду, але паколькі вялікая колькасць дзяцей — гэта беларусы, арганізаваў я тут навуку на беларускай мове, а палякам на польскай.

### У МІХАЛОВЕ

Педагагічная падрыхтоўка, арганізатарскія здольнасці і энергічнасць былі прычынай, што А. Зіневіча перанесена на кіраўніка беларускай школы ў Міхалове. Штопраўда існавала яна два гады, але ў тав. Зіневіча асталіся самыя лепшыя ўспаміны.

Памалу сітуацыя ў краіне даходзіла да нормы. Трэба было думаць аб развіцці Міхалова і яго ваколіц. Генеральнай справай сталася арганізацыя ліцэя ў Міхалове.

— Насіла мяне і па міністэрствах і іншых урадавых установах. Раз я выступаў як настаўнік, другі раз як бацька. Не думайце, што я прыкідваўся бацькам. У мяне сапраўды тады вучыўся сын у Міхалове...

А. Зіневіч быў энергічны. Разам з дэлегацыяй пабываў у міністра асветы і ад яго атрымаў абяцанне, што ліцэй у Міхалове будзе адкрыты.

Ліцэй арганізавана ў 1950 годзе. Ізноў істотная справа: быць у ім ці не быць беларускай мове? Зноў трэба было некаторых пераконваць аб патрэбе навучання беларусаў іх роднай мове.

У агроме грамадскай прафесіянальнай дзейнасці не забыў і пра вучобу.

— Бачыце, арганізаваць ліцэй дык мы арганізавалі, але з кадрай не зусім добра. Задумаў і я вучыцца. Паступіў на ВСП у Кракаве на рускую філалогію і закончыў яе ў 1956 годзе.

Вось шлях, кароценькі шлях, аднаго з настаўнікаў, якія носяць у сэрцы нашу асвету і культуру.

**А. Карпюк**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Было гэта...

## ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД

15 лютага 1942 г. паў Сінгапур. Лічыўся тады ён адной з наймацнейшых марскіх крэпасцей свету. Канец гэтай крэпасці нагадвае лёс не менш славутай лініі Мажыно. Як французы за сваімі ўмацаваннямі на сушы, так англічане за сценамі сваёй марской крэпасці, адчувалі сябе ў поўнай бяспецы. Калі 7 снежня 1941 г. радыё паведаміла аб катастрофе ў Пірл-Харборы, карэспандэнт «Таймс» у Сінгапуры пісаў: «Сёння Сінгапур — аснова брытанскай магутнасці на Далёкім Усходзе. Гэта магутнасць адразу ж адчуваецца, як толькі ўступіш на выспу... Густыя джунглі паўночных малайскіх дзяржаў робяць малапраўдападобным, каб праціўнік калі-небудзь паспрабаваў дабрацца да Сінгапура па сушы, для гэтага трэба прайсці па паўвыспе 400 міль, аднак зусім магчымы спробы высадзіць войскі на ўзбярэжжы.

Лінія Мажыно была пабудавана, каб перагарадзіць дарогу нямецкай лавіне з усходу. Крэпасць у Сінгапуры была пабудавана з мэтай перагарадзіць дарогу японскай лавіне з поўдня. У абодвух выпадках лавіна пайшла не там, дзе яе чакалі.

Такім чынам, калі 31 студзеня англічане праснуліся, яны ўбачылі, што ўсё ў Сінгапуры было накіравана не ў той бок, куды трэба было б. Магутныя гарматы крэпасці глядзелі на поўдзень. А праціўнік стаяў на поўначы за вузкім пралівам Джахор.

У крэпасці было каля 70 тыс. салдат на чале з камандуючым англійскімі войскамі ў Мэлайі генерал-лейтэнантам А. Персівалем. У крэпасці хапала харчоў да доўгай асады; вады, якая знаходзілася ў двух вялікіх рэзервуарах у цэнтры выспы, таксама хапала. Хоць праліў быў вузкі, знешняе становішча крэпасці зусім не здавалася безнадзейным. Англічане думалі, што яна зможа ўтрымацца, у крайнім выпадку, не менш, шэсць месяцаў.

4 лютага японцы, падцягнуўшы артылерыю, пачалі артылерыйскі абстрэл крэпасці цераз праліў Джахор. У ноч з 8 да 9 лютага на спецыяльна падвезеных жалезных баржах японскія войскі фарсіравалі праліў і высадзіліся на выспу. 9 лютага японцы пачалі наступленне ўглыбіню выспы. 14 лютага захапілі яны вадасховішча. На наступны дзень у 7 гадзін па мясцовым часе 70-тысячны гарнізон капітуляваў. (ха)



...Магутныя гарматы крэпасці глядзелі на поўдзень.

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Пасяджэнне савета клуба юных інтэрнацыяналістаў сярэдняй школы № 3 Мінска.




Я вывучаў дэльфінаў больш года. І цяпер мне часта задаюць адно і тое ж пытанне: «Сапраўды яны такія ж разумныя, як і людзі?»

Я адказваю з некаторым ваганнем.

У дэльфінаў мозг большы і ў некаторых адносінах больш складаны, чым чалавечы. Я сустракаў аднаго здольнага дэльфіна, які мог зусім выразна гаварыць па-англійску: «Выдатна, давай пачнём». Ён мог таксама лічыць да дзесяці.

### ДОЛІ І ДЗІНА

Наша экспедыцыя складалася з вучоных, цэлага штата памочнікаў, трэнераў, невялікага даследчага судна, і двух абучаных дэльфінаў па імю Долі і Дзіна.

Долі і Дзіна прыбылі ў Фларыду яўна не ў гумары.

Яны праявілі сваё нездавальненне, калі мы знялі іх з судна і апусцілі ў загон. Нават не азірнуўшыся, дэльфіны пераскочылі цераз загародку і накіраваліся да гарызонту, у бок Афрыкі. Я падумаў пра сябе, што доследы закончаны.

Вучоныя, якія шмат месяцаў працавалі з гэтымі дэльфінамі, захавалі спакой. Адзін з трэнераў пусціўся ў пагоню на маторнай лодцы. Да майго здзіўлення, праз пятнаццаць мінут лодка вярнулася. За ёю, падскокваючы і плюхаючыся ў блакітнай вадзе, плылі Долі і Дзіна. Электрычным падводным гукавым сігналам трэнер паклікаў іх да сябе. Пасля некалькіх спроб ён змясціў уцекачоў у загон.

### ЦІ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ДЭЛЬФІНЫ ПАМІЖ САБОЙ?

Дэльфіна па імю Аліса навучылі адрозніваць два стальныя шары: маленькі — паўтара дзюйма ў дыяметры і вялікі два з палавінай дзюймы. Калі Аліса выбірала вялікі, ёй давалі рыбу. Потым дэльфіну спецыяльным прыстасаваннем закрылі вочы і пачалі паступова павялічваць размер меншага шара. Аліса не зрабіла ніводнай памылкі ў сотнях выпадкаў. Было ўстаноўлена, што дэльфіны вызначаюць месцазнаходжанне і адрозніваюць прадметы з дапамогай гукаў. Але ці выкарыстоўваюць яны іх для размовы паміж сабой? Адзін цікавы эксперымент, які яшчэ не закончан, даказвае, што гэта зусім магчыма.

Доктар Бастыян, фізіёлаг Каліфарнійскага ўніверсітэта, навучыў двух дэльфінаў — самца Буза і самку Дорыс — складанай гульні. У кожнага было пад вадой два рычагі — злева і справа. Дэльфінам падаваліся светавыя сігналы. Спакойнае святло азначала — націсні правы рычаг, мігатлівае святло — левы рычаг. Дэльфіны хутка зразумелі розніцу паміж спакойным і мігатлівым святлом, паміж правым рычагом і левым. Тады доктар крыху ўскладніў задачу. Калі запальвалася святло, Дорыс павінна была пачакаць. Калі яна націскала першай, дэльфіны не атрымлівалі ўзнагароды — рыбы. Націснуць рычаг яна магла толькі пасля таго, як націснуў свае рычагі Буз. Дэльфіны авалодалі і гэтым. Потым доктар паставіў перагародку паміж дэльфінамі. Цяпер яны маглі толькі чуць адзін аднаго, але бачыла святло адна Дорыс. Калі доктар Бастыян уключыў святло, Дорыс размяшчалася пад рычагамі і ветліва чакала, як яе вучылі. У той жа час, аднак, яна падавала мноства гукаў, і Буз нейкім чынам, не бачачы з-за перагародкі светавага сігналу, ведаў, які яму трэба націснуць рычаг.

### НА ЧЫМ БАКУ ПРАЎДА?

Вучоны свет рэзка падзяляецца ў сваіх адносінах да дэльфінаў. Адны лічаць, што гэтыя млекакормячыя даволі разумныя жывёліны і нічога больш. Другія мяркуюць, што дэльфіны па-свойму амаль такія ж разумныя, як і людзі.

Вельмі сур'ёзна працуюць над гэтай праблемай доктар Джон Лілі, вядомы сваімі працамі па вывучэнню мозгу малпаў і чалавека. У 1949 годзе, зацікавіўшыся дэльфінамі, доктар Лілі пачаў вялікую даследчую работу над гэтымі жывёлінамі. Доктар Лілі і яго калегі спрабуюць даведацца, што могуць рабіць дэльфіны, чаму іх можна навучыць, наколькі яны добра запамінаюць, як яны думаюць і што яны ведаюць. Лілі не верыць, што цыркавыя нумары — мяжа здольнасці дэльфінаў. Сваю кнігу «Чалавек і дэльфін» доктар Лілі пачынае прарочымі словамі: «У наступныя дзесяць—дваццаць гадоў людскі род установіць сувязь з іншай пародай, не людзьмі, магчыма, марской пародай...» Гэта на першы погляд фантастычная ідэя, даволі актуальная для вучоных, таму што астранаўты могуць сутыкнуцца з зусім нечаканымі праяўленнямі жыцця іншых сусветаў.

**Роберт Конлі**




Як толькі памочнік пайшоў, «Г-20» з нецярплівасцю схапіў «Кантрольную кнігу». Праз мінуту ён ледзь не ўскрыкнуў ад радасці. Ён жа, нарэшце, трымаў у руках дакумент, які да гэтага часу безвынікова шукаў. Праўда, да гэтага часу яму ўдалося ўстанавіць каля 70 працэнтаў месц дыслакацыі батарэй, аднак тыя даныя былі атрыманы з недакладных крыніц. Падслуханыя ў выпадковых размовах салдат і афіцэраў назвы маглі быць пераблытаны. З задавальненнем ён адзначыў, што не памыліўся ў сваіх меркаваннях. Ні адна назва мясцовасці, запісаная ў кнізе, не адпавядала раней вядомым.

— Чаму ні адзін пункт не супадае? — задумаўся ён. — Магчыма, гэта спецыяльна? — Мінуту ён углядаўся ў роўныя радкі. Аднак гэтыя запісы заслугоўвалі давер'я.

І ўсё ж зверка назваў пунктаў, атрыманых з дзвюх крыніц, не давала яму спакою. Ён стараўся зразумець, якія даныя правільныя. Раздумваў ён доўга, камбінаваў, прыводзіў розныя меркаванні.

— А магчыма змянілі дыслакацыю ўсіх батарэй? Ну, вядома, інакш нельга гэта растлумачыць. Запісы, напэўна, правільныя, — пераконваў ён сябе.

Цяпер ён ужо быў спакойны. Шчаслівы выпадак дапамог яму пазбегнуць важнай па сваіх выніках памылкі. Стэйнеке пасля дэшыфроўкі атрыманых даных накіраваўся б адразу ў раён, каб праверыць іх. Як ён быў бы раззлаваны, калі б нічога не супадала. Адразу пачаў бы падазраваць у сабатажы, абвінавачваць у здрадзе. Хто ведае, на што ён быў бы здольны. Пры адной думцы аб гэтым «Г-20» кінула ў дрыжыкі. Агідная морда Стэйнеке не выклікала ў яго давер'я. — У выпадку чаго ён не стаў бы са мной цырымоніцца, — з жахам думаў «Г-20».

Пасляабедзенны час прайшоў без асаблівых здарэнняў. Ужо мінавала 10.00, калі «Г-20» вырашыў пайсці адпачыць.

— Іду спаць! — сказаў ён свайму памочніку, — разбудзі мяне самае позняе ў пачатку другой гадзіны.

Паручык кіўнуў галавой.

«Г-20», улёгшыся на канапу, доўга не мог заснуць. Ён увесь час думаў пра заданне, якое ён павінен выканаць сёння ноччу. Праз некалькі гадзін яго разбудзіла моцнае тузанне за плечы.

«Г-20» прысеў на канапу і шырока пазяхнуў.

— Якая гадзіна? — спытаў ён.

— Чацвёртая.

— Што? — «Г-20» ускочыў на ногі. — Ты абавязан быў разбудзіць мяне а другой гадзіне! — сказаў ён з папрокам.

— Ты злуешся?

— Не, але я не дазволю табе спаць больш шасці гадзін. Адразу ж кладзіся на канапу!

— А я зусім не хачу спаць...

— Не мудруй! — «Г-20» прывёў у парадак амуніцыю і сышоў уніз. Праз дзесяць мінут, насуперак запэўненням, памочнік заснуў мёртвым сном.

«Г-20», не адкладваючы, прыняўся за справу. Ён узяў партфель, распароў яго крыху і выняў падоўжаны прадмет. Гэта быў звычайны футарал, зроблены са свіной скуры, у якім у адным аддзяленні было вечнае пяро, а ў другім — аўтаматычны аловак. Як пяро, так і аловак былі намнога таўсцей і даўжэй звычайных. Просты смяротны быў бы, аднак, надзвычай здзіўлены, калі б задумаў імі карыстацца. Пяром ён напісаў бы нямнога старонак. Такі запас чарніла меў невялікі рэзервуарчык, змешчаны ў пярэдняй частцы ручкі. Затое ў ручцы алоўка знаходзіўся графіт не даўжэй некалькіх міліметраў. Калі нецярплівы спажывец разабраў бы яе на часткі — ён сустрэўся б з нечаканасцю! Замест нармальных спружынак і абмотак ён убачыў бы мноства мініяцюрных сабраных частак. Спецыяліст назваў бы іх рээстратарамі. У канцы футарала, паміж двума пластамі скуры, быў уманціраваны трансфарматар. Комплекс прыбораў разам з футаралам складаў ультракароткахвалевы перадатчык, прызначаны для работы з ключом на недалёкіх адлегласцях.

«Г-20» выняў з партфеля тры скруткі ізаляванага проваду. Адзін з іх далучыў да амаль нябачнай адтуліны ў алоўку, а другі канец прымацаваў да ножкі крэсла, якое стаяла ў куце. Такім чынам, антэна была ўстаноўлена ў паўночна-ўсходнім напрамку. Гэты напрамак «Г-20» вызначыў загадзя з да-



© PDF: Kamunikat.org 2024

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДА ЧЫТАЧОЎ

**У рэдакцыю многія чытачы прысылаюць не падпісаныя інфармацыі, а нават артыкулы з жыцця сваёй вёскі. Гэтыя матэрыялы, хаця і надаюцца да друку, але мы іх не змяшчаем толькі таму, што яны ананімныя, гэта значыць, няма паданага імя і прозвішча, а таксама дакладнага адрасу таго, хто піша. Рэдакцыя не мае магчымасці зверыць з аўтарам тыя ці іншыя справы, пытанні, не мае падстаў верыць праўдзівасці паданых фактаў. І так, не падпісаных матэрыялаў сваім імем і прозвішчам мы не публікуем на старонках свайго часопіса.**




Дарагое Сэрцайка, скажы, што рабіць, каб не быць той «непатрэбнай»?

Мой бацька мае многа зямлі, аднак не дае яна многа карысці, бо гэта зямля горшага класа. Сям'я ў нас вельмі вялікая, бо лічыць 9 асоб. Толькі адна ў нас асоба зарабляе ўжо на сваё ўтрыманне. Я скончыла толькі 7 класаў пачатковай школы. Вучыцца ў горадзе не было за што. Хацела я паступіць у СПР у Клюковічы, аднак бацькі не пусцілі. Сказалі мне, што гэтая навука мне не патрэбна. Цяпер сяджу дома. Не ведаю што рабіць, чым заняцца, дзе пайсці. Вучыцца няма за што. Прошлую зіму я пачала пісаць вершы, але нікуды іх не высылала (вершы пісала я на польскай мове) і так яны ляжаць. Суседка мне гаварыла, што трэба было ісці вучыцца ў школу, а потым шукаць працы ў рэдакцыях. Я вельмі люблю складаць вершы. Прашу цябе, дзе шукаць шчасця?

Да пабачэння
**Соня**
з Сямяціцкага павета

Дарагая Соня! А каб я ведала, дзе гэта шчасце, напэўна табе б сказала. Толькі з гэтым шчасцем усяляк ў жыцці бывае. Пішаш, што хацела б вучыцца, але няма грошай. Можаш паступіць у карэспандэнцыйны ліцэй, тады можаш працаваць на гаспадарцы, а ў вольныя хвіліны, якіх маеш нямала (як сама пішаш), будзеш вучыцца. Бо толькі навука можа давесці цябе да таго, што ты ў сваім лісце называеш — «шчасцем». Аб гэтай школе не раз мы пісалі і падавалі адрас. Таму вазьмі сшыўку «Нівы» і прагарні лісткі.

Жадаю ўсяго добрага
Сэрцайка

## ЯК ПРЫЙМАЮЦЬ ДА «КАВАЛЕРКІ»

У час каляд, як штогод, дзеці і дарослая моладзь ходзяць са звяздою. Калядснікам за гэта кожны гаспадар плоціць грошы. Самыя першыя ходзяць дзеці, а апошняй ідзе «кавалерка» — старэйшая моладзь: дзяўчаты і хлопцы.

У хаце, дзе ёсць хлапец або дзяўчына, якія скончылі 17 гадоў жыцця, адбываецца гуцанне. Гэта значыць, што бяруць хлапца або дзяўчыну, садзяць на столак і пры ўсёй сям'і гуцаюць — падкідаюць угору. У той момант усе спяваюць «Сто год! Сто год! Хай жыве нам!» Так спяваюць аж тры разы. Пасля гуцання гэтая асоба дзякуе ўсім, падаючы руку. На другі дзень свята ўся моладзь збіраецца ў доме дзяўчыны, або хлопца прынятага да «кавалеркі» і там пачынаецца маладзёжная гасціна. У час гасціны моладзь вясёлая, спявае песні, а музыкант падыгрывае. Пасля гасціны робяць забаву. Ад гэтай пары кожны пагуцаны чуецца «кавалерам», а дзяўчына — дарослай.

М. Тэлешэўскі
Рэпіска

## ВЁСКА ВЁСЦЫ НЕ РОЎНАЯ

Хачу параўнаць культурнае жыццё двух суседніх вёсак: Піражкоў і Кнышэвіч (Сакольскі павет). У Піражках стараннем падставовай арганізацыі ПАРП паўстала святліца, абсталявана ў тэлевізар, радыё, ігры, часопісы, крэслы і столікі. У Піражках моладзь і старэйшыя мужчыны праводзяць доўгія зімовыя вечары пры тэлевізары і радыё. Кожны ідзе дамоў са святліцы задаволены і радасны.

У Кнышэвічах ёсць школа, але няма ані святліцы, ані клуба. Моладзь і старэйшыя мужчыны не маюць дзе правесці доўгіх зімовых вечароў. Збіраюцца яны ў каго-небудзь і па цэлых вечарах іграюць у тысячу. А калі ўжо збрыдне гуляць у тысячу, тады робяць складчыну і ідуць да крамаркі па віно. Крама ў той час зачынена, але крамарка бярэ дамоў пару бутэлек віна, каб паратаваць моцна прагнучых. У карцёжнікаў ёсць свае праблемы. Мала хто хоча пускаць іх у хату граць у карты, таму што гэтая ігра галаслівая і не кожны можа пераносіць такі шум ігракоў.

А. С.
Сакольскі павет

## З НАГОДЫ ГАДАВІНЫ

З нагоды 25 гадавіны заснавання Польскай рабочай партыі адбылася 21.I.1967 г. у грамадскай святліцы ў Чыжах акадэмія. У акадэміі ўзялі ўдзел былыя ППР-аўцы. Акадэмію адкрыў старшыня Грамадскай рады ў Чыжах, Мікалай Брук, ён таксама запрасіў у прэзідыум найбольш заслужаных дзеячаў і актывістаў грамады. Даклад чытаў сакратар грамадскага партыйнага камітэта — лектар Сцяпан Немчык. На заканчэнне ўрачыстасці адбылася танцавальная вечарына.

**Янка Грамадзкі**

## ПАД КІРАЎНІЦТВАМ АЛЯКСАНДРЫ ПАНАСЮК

У Пасынках не было мастацкай самадзейнасці. Проста не было каму гэтым заняцца. Моладзь і старэйшыя праводзілі час пры картах. І толькі тады, калі ў Пасынках пачала працаваць настаўніца Аляксандра Панасюк, пачалася праца з моладдзю і старэйшымі.

У вёсцы быў арганізаваны гурток БГКТ з 16 асоб. Самадзейнікі Пасынак пад кіраўніцтвам Аляксандры Панасюк падрыхтавалі дзве беларускія п'есы «Міхалку» і «Боты» і паспяхова выступілі на школьнай сцэне. Драмгурток дасць яшчэ некалькі паездак у тэатр.

Тэкст і фота П. Зінкевіч



**Сяргей Вясялоўскі і Зіна Пракапюк у п'есе «Боты».**



**Янка Дудзіч і Марыся Нікіцюк у ролях Язэпа і Адэлі.**

## ЛЮДЗІ ПАЎЛАЎ

Нашу вёску Паўлы, што на Бельшчыне, ведаюць усе і ўсюды. Не ведаюць можа толькі паўлаўскіх людзей, сярод якіх ёсць многа здольных людзей, без якіх не можна было б абыйсціся ў жыцці. Да такіх можна залічыць Мікалая Нікіцюка. Калі быў у войску, то здабыў там права даваць хворым уколы. Цяпер не трэба ехаць да спулдзельні здароўя ў Рыбалы, каб там лекар зрабіў укол, а хопіць папрасіць Колю і ён прыдзе да хворага дахаты. А з Паўлаў да Рыбал чатыры кіламетры дарогі, так што хвораму гэта даволі многа. За Колі работу ўсе яму ўдзячны.

Другім здольным чалавекам з'яўляецца Васіль Раманюк. Усе яго ў Паўлах і ў суседніх вёсках ведаюць. З яго добры цырульнік. Васіль падстрыжа ўсіх, старых і малых.

Аня Краснадэмская з'яўляецца сакратаром гуртка БГКТ у Паўлах. Яна прыгожа малюе.

У паўлаўскай школе ёсць «прадшколе». Арганізуецца яно два разы на тыдзень у сераду і пятніцу. Усіх «прадшкалякаў» больш дваццаці. Калі ў школе канчаюцца навучальныя заняткі, гэтыя малышы збіраюцца ў школе. Не ўсе самі прыходзяць, некаторых прыводзяць мамы. Выхавацельніцай з'яўляецца настаўніца паўлаўскай школы Валя Сыльвеструк. Яна з імі абыходзіцца яшчэ лепш, як родная маці.

Усе мамы вельмі задаволены, што іх дзеці маюць таксама заняткі.

Міша
з Паўлаў

## ЧЫЖОЎСКІЯ ПАЖАРНІКІ

За паспяховую дзейнасць чыжоўскія пажарнікі атрымалі пажарны самаход. Але для гэтай машыны няма адпаведнага памяшкання.

Вось таму з ініцыятывы пажарнікаў у Чыжах запланавана пабудаваць будынак, у якім будзе мецца месца і раміза, і клуб-кавярня. Дакументацыя ўжо гатова. Шмат ужо зроблена грамадскім чынам. Ужо стаіць падмурак, падрыхтаваны будаўляны матэрыял. На вясковым сходзе прынята пастанова далей выконваць «нефаховыя» работы грамадскім чынам. Прыдзе вясна, і рушыць работа на ўсю пару.

**Янка Грамадзкі**
Чыжы

---

памогай асобай карты. Цяпер трэба было перадатчык падключыць да сеткі. Для гэтай мэты спатрэбіліся агенту два скруткі праваду, якія засталіся.

Хутка ўнутры футарала бліснула мініяцюрная кантрольная лямпа. Ледзь чутнае брынканне, накшталт гудзення мухі, раздалося над сталом. «Г-20» уставіў глыбей выпіраўшы з боку футарала тонкі, але даволі эластычны правадок. Клапан, які да гэтага часу абвісаў і закрываў футарал, раптоўна набыў пруткасць. Перадатчык гатовы да работы. «Г-20» неспакойным позіркам абвёў дзяжурку і павярнуў галоўку вечнага пяра на 180°. Кантрольная лямпачка патухла. Мякка націснуў пальцам на ўманціраваны ў пяро націск. Кантрольная лямпачка зноў бліснула. Ён хутка ўзяў двума пальцамі пружыністы клапан футарала і, рытмічна рухаючы далонямі ўніз і ўверх, перадаў пазыўны сігнал.

«Г-20» не губляў мінуты. Ён выняў з кішэні бумажнік, разгарнуў і паклаў яго на стол і, заглядваючы ў яго кожны раз, пачаў са спрытам прафесіянала — радыётэлеграфіста перадаваць спачатку тактыка-тэхнічныя даныя ракеты SQMZ-2, потым даныя ўсіх яе элементаў.

Затым ён падсунуў бліжэй да сябе «Кантрольную кнігу выездаў». Перадача месцаразмяшчэння некалькіх дзесяткаў ракетных батарэй працягвалася значна больш. «Г-20» часта перапыняў работу, прыслухоўваўся, падазрона азіраўся. У дзяжурцы панавала цішыня. У памяшканні наверсе памочнік спаў сном праведніка. З вуліцы чуліся мерныя крокі вартавога.

Пасля заканчэння работы «Г-20» на працягу дзесятка — двух секунд дэманціраваў перадатчык і схаваў яго ў кішэню. Дакументы, якія ляжалі на стале, «Г-20» зачыніў у жалезную скрыню. «Г-20» паглядзеў на гадзіннік — было 5,50 раніцы.

— Удалося, — сказаў ён сам сабе.

Праз мінуту «Г-20» ішоў па лесвіцы ўніз, весела насвістваючы папулярную аперэтачную мелодыю. Раптам ён спыніўся: у дзяжурцы непадалёку ад уваходных дзвярэй стаяў афіцэр ВПС у званні паручыка і ўглядаўся ў «Г-20».

— Праваліўся, — мільганула ў галаве. Рыўком ён схапіўся за кабуру пісталета.

— Толькі без глупстваў, — спакойна папярэдзіў яго паручык, паказваючы рукой на салдат. «Г-20» толькі цяпер іх заўважыў.

— Рукі ўгору! — загадаў паручык. — Вы арыштаваны!

**(Працяг будзе)**

# КІНО

на 14—19.II.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Przygody Wernera Holta" (NRD), 14—15. „Wyrok" (polski), 16—17. „Śmierć Belli" (franc.), 18—19.

**Кляшчэлі**
„Bajka o mrozie czarodzieju" (radz.), 14—15. „Winnetou" (jug.), I s 16—17. Winnetou" (jug.), II s. 18—19.

**Дубіны**
„Sklep przy głównej ulicy" (czeski), „Samson" (polski), 18-19.

**Нарва**
„Wierność" (radz.), „Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 15—19.

**Чыжы**
„Urocza gospodyni" (USA), „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**
„Dom z facjatą" (radz.), „Grzeszny anioł" (radz.), 15—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 15—19.

**Орля**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Zdradzona ziemia" (węgierski), 15—19.

**Райск**
„Pożegnania" (polski), „Dzielnica Szczęścia" (rumuński), 15—19.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Wzgórze" (angl.), „Gdzie jest trzeci król" (polski), 14—17.

**Міхалова**
„Jadą goście, jadą" (polski), 14—15. „Towarzysze podróży" (radz.), 16—17. „Zerwany most" (polski), 18—19.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Królewskie dzieci" (NRD), 14—15. „Diabelska przepaść" (czeski), 16—17. „Złoto" (polski), 18—19.

**Мілейчыцы**
„Biała pani" (czeski), 14—15. „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 16—17. „Piekło i niebo" (polski), 18—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Długość pocałunku 90" (czeski), 14—15. „Mój stary" (polski), 16—17. „Trema" (USA), 18—19.

**Шудзялава**
„Obok prawdy" (polski), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 15—19.

**Сідра**
„Skrytobójcy" (NRD), 14—15. „Ostatni świadek" (NRF), 16—17. „Strzelby Apaczów" (USA), 18—19.

**Сухаволя**
„Potem nastąpi cisza" (polski), „Samotna" (radz.), 15—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Noc przedślubna" (czeski), „12 milionów Holendrów" (holenderski), 18—19.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-33-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.944 Błtk. N-1



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# КУДЗЕЛЬНІК

— Пайду я трохі прылягу, бо так сон морыць, што чуць носа аб стол не патаўкла. А ты, Кастусёк, як хто да нас прыдзе, скажы, што я пайшла ў той канец.

Выйшла я на ванкер і не паспела галавы прылажыць, як пад акном забрахаў наш Бобік. Лопнула брамка і заскрыпелі чыесь крокі. У сенцах пачуўся тупат і пайшоў у рух венік. Кастусь адчыніў дзверы і пачаў запрашаць:

— Уваходзьце, калі ласка.

— Дай нам ачысціць са снегу ногі, зараз увойдзем.

Па голасе пазнала я солтыса Лепятушку. Тут мне і сон адскочыў. Ого, мусі якаясь важная справа. На кухню ўвайшлі Лепятушка, Шайба, якога нядаўна выбралі прэзасам гаспадарчага гуртка, і Язько Балбатуноў — радны, які заўсёды на грамадскіх сесіях голас усім забірае і сам за ўсіх радных гаворыць і радзіць. Самая вясковая старшызна. Хацела я ўжо выйсці на кухню, але Шайба загаварыў:

— А дзе ж, Кастусь, твая Мальвінка?

— Пайшла дзесь аж у той канец... Але сядайце, калі ласка.

Мяне як бы прывязалі да ложка.

— Ну і добра, што пайшла. А мы да цябе, Кастусь, у важнай справе, — пачаў Лепятушка.

— А што такое? — здзівіўся Кастусь.

— Не палохайся, Кастусёк, — засмяяўся Шайба. — А ну, Язьку, выяўляй свой сакрэт, бо яшчэ нам Кастусь ад спалоху расхварэецца.

Язько Балбатуноў толькі на гэта і чакаў.

— Ведаеш, Кастусь, цяпер мясніцы, — пачаў сваю рэч, вось мы і задумалі арганізаваць кудзельнік. Усе члены гаспадарчага гуртка будуць са сваімі жонкамі. Мы прышлі і цябе з Мальвінаю прасіць. Паглянеш, будзе ў нас такі кудзельнік, што такога яшчэ вёска не бачыла.

А Кастусь збянтэжаным голасам застагнаў:

— Эх, кудзельнік, то кудзельнік, але дзе мы для сваіх бабаў возьмем кудзелю і калаўроткаў? Яны ж ужо даўно з нашай вёскі вывеліся.

Аж мне дух у грудзях заперла. Але Лепятушка зараз падхваціў:

— Але ў хляве каўбасы растуць і пад полапам аж угінаеццаградка. А па кудзелі няхай Бобік у будзі плача. Помніш, нашыя бабы суслячы кужаль не мелі прасветнай гадзіны, шлёпалі пры кудзелі, як тыя куры. А ці ж ты, Кастусь, не насіў палатанае сарочкі. А цяпер, бач, кантрактуеш лён, баба ні прадзе, ні тчэ, а на табе, бачу, такая сарочка, што каб убачыў даўнейшы пан барон, то памёр бы з зайздрасці. А кудзельнік зрабіць трэба і ты, Кастусь, ад нас не адказвайся.

А Кастусь:

— Так то яно так, кудзельнік добрая рэч, але пайду запытаю Мальвіну...

З таго ўсяго забыўся пра сакрэт і адчыніў з кухні наўсцеж дзверы. А мне як бы хто з дуляю пад нос заехаў. Але схапілася я з ложка і кажу:

— Выбачайце, усё я чула. Хацела прыснуць, але з маім Кастусём нідзе не схаваешся. А мы на кудзельнік абавязкова прыдзем.

— Ну вось і справа залатвяна, — уцешыўся Язько Балбатуноў. — А цяпер, хлопчыкі, пашлі далей.

Вышла я за арганізатарамі кудзельніка аж да брамачкі, вярнулася ў хату і кажу

— А ты, Кастусь, накармі кабылку, заўтра паедзеш у горад купаваць сабе артыляновую фуфайку, бо ў зашмальцаваным кажуху ісці на кудзельнік цяпер не пасуе.

**Цёта Мальвіна**



**ШТО ПАСЕЕШ...**

**«Вось так, сыночак! Малайчына!**
**Дай бабцы ў лоб! Мая натура!..»**
**Мінае час, і ўжо на сына**
**Акт бацька шле ў пракуратуру.**

**Мухтар Хідайкулаў**

**ЧАМУ**

На судзе адзін адвакат з энтузіязмам абараняў свайго кліента:

— Грамадзяне засядацелі, перш чым прыняць рашэнне, трэба зразумець, што абвінавачаны глухі, а таму зусім зразумела, чаму ён не змог пачуць голасу свайго сумлення.



**Усё людское нам не чужое**

**ПРЫГОЖЫ**

Дзве сакратаркі размаўляюць паміж сабою.

Першая: — Які прыгожы твар у нашага шэфа.

Другая: — Ага, і вельмі калючы.

**ЧАМУ**

*— Пеця, чаму ў цябе такія брудныя рукі?*

*— Я, мамачка, мыў імі твар.*

**НЕ ТАЯ**

Малады хлопец пытае ў дзяўчыны:

— Скажыце, выпадкам вы не тая, што мае такую прыгожую сястру?

— Не, не, што вы! Гэта яна сястра мне.

**РАЗУМЕЕ**

У час здымкаў аднаго з фільмаў кіназорка адмовілася ўлезці ў клетку з ільвамі. Рэжысёр яе супакоіў:

— Няма ніякай небяспекі. Гэтых жывёл кормяць малаком.

— Я разумею, — дадала зорка. — Але сёння ім, можа, захочацца мяса.

*ЯКОЕ*

*— Федзя, ты слова «суніцы» напісаў з двума «н», — кажа настаўнік. — Закрэслі адно.*

*— А якое ж з іх закрэсліць?*

*ХТО ЧАГО ВАРТЫ*

*Мікола Хвастун вельмі любіў выхваляцца перад суседзямі. Аднаго разу ён і кажа да суседа:*

*— Вось, братка, я цябе патрапіў бы сто разоў на дзень прадаць.*

*— Нічога дзіўнага, — адказвае сусед, — відаць, я нечага варты. А цябе вось дык, пэўна, ніводнага разу не прадаў бы, хоць бы і сто разоў хадзіў на кірмаш.*

**— Не падабаецца мне ваш язык!**
**— Пра гэта мне і ў міліцыі казалі!..**



**— А тэхніка такі цудоўная сіла: гэта мышалоўка замяняе працу дзесяці катоў.**

*ПРОСТАЯ АРЫФМЕТЫКА*

*У хамяка выявілі недастачу ў 100 тысяч злотых. Прапанавалі скласці паўнамоцтвы, перакінулі на іншае месца. Там зноў недастача — і зноў на суму 100 тысяч злотых. Простая арыфметыка: ад перамены месц складаемых сума не мяняецца.*



**Надзень шалік, бо прастудзішся.**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**На просьбе Гэлены Карнэлюк з Мядзвежыкаў, Сямяціцкага павета, і Станіслава Дамброўскага з Бялявіч, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.**

# Белым снегом

**Слова Г. Варшавского Музыка Е. Родыгина**

**Белым снегом, белым снегом**
**Ночь метельная ту стежку замела,**
**По которой, по которой**
**Я с тобой, родимый, рядышком прошла.**

**Вспомни, милый, наши встречи**
**И слова любви, что ты мне говорил.**
**Почему ты те минуты,**
**Те часы свиданий наших позабыл?**

**Я страдала, ожидала,**
**Я ждала тебя, звала тебя в тоске,**
**Только стежка пропадала,**
**След знакомый затерялся вдалеке.**

**Белым снегом, белым снегом**
**Ночь метельная ту стежку замела,**
**По которой, по которой**
**Я с тобой, родимый, рядышком прошла.**



**Прадпрыймальны пастар**

Нядаўна ў Вене скончыліся гастролі езуіцкага пастара з Ватыкана Айма Дуваля. З электрагітарай у руках і ў суправаджэнні джаза ён выконваў псалмы на матыў сучасных модных песенек. Яго выступленні мелі вялікі поспех у моладзі. Пастар Дуваль не пазбаўлены прадпрыймальнасці: ён наладзіў выпуск грампласцінак са сваімі песнямі. Ужо прададзена больш 50 тысяч такіх пласцінак.

**Грошы не пахнуць**

У некаторых землях ФРГ ужо дзейнічае закон аб абкладанні падаходным падаткам прафесіянальных прастытутак. Толькі ў Гамбургу фінансавыя органы ўзялі на ўлік даход 1600 прадстаўніц самай старажытнай прафесіі. Падатковыя агенты сочаць, каб кожная з іх вяла дакладны ўлік усіх нарараў, якія атрымлівае, і выдаткаў. Згодна з існуючым заканадаўствам, частка даходаў, якія ідуць на вытворчыя патрэбы — наём пакоя ў гасцініцы, транспартныя выдаткі і г.д., — вызваляецца ад абкладання падаткам.

**Папулярнасць**

На прэс-канферэнцыі ў Кайзерслаўтэрн (Заходняя Германія) вядомая актрыса Інга Штаберт расказала, якой папулярнасцю яна карыстаецца сярод афіцэраў амерыканскіх акупацыйных войск. У канцы яе выступленняў афіцэры выносяць на сцэну ванну і напаўняюць яе шампанскім. Пасля таго, як Інга Штаберт на вачах прысутных выкупаецца ў шампанскім, яго выпіваюць афіцэры.




Калі малады чалавек прыме рашэнне ажаніцца — гэта яго апошняе самастойнае рашэнне.

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024